№ 23-24 (88) 30 чэрвеня 1997 г.

НАША НІВА

Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая таксама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

# Сем капеек за кулю

*Інтэрвію з Барысам Рагулем*

Сёньня Барысу Рагулю 77 гадоў. Ён адзін з самых вядомых лекараў у Канадзе. Гэта яшчэ жвавы сталы мужчына з афіцэрскай выпраўкай. Манера размовы — вельмі дыпляматычная. Пад час нашага інтэрвію волю эмоцыям Барыс Рагуля даў толькі два разы: калі ўспамінаў сваю маці, якая загінула ад нямецкага бамбаваньня Навагрудку ў 1941 годзе, і калі пабачыў у відэа падзеі Менскай вясны — 1996. Ён раптам устаў і на працягу гадзіны даглядаў запіс стоячы. Гэты аўдыё-запіс гутаркі з Барысам Рагулем быў зроблены год назад у Бэльгіі. Перад разьвітаньнем ён сказаў: "Усё, што я расказаў — гісторыя, яе трэба ведаць і помніць, але ня жыць у ёй. Жыць трэба ў сёньняшнім дні й думаць пра будучыню!"

Архіўная паласа "Шуфляда" на старонцы 4.

# Будзь гатовы!



Здымак Ігара Саўчанкі.

Калі летась у верасьні ўлады закрылі Радыё 101,2 FM, гэта не зьмяніла становішча ў краіне. Уседазволенасьці рэжыму не было супрацьпастаўлена нічога, акрамя прэс-рэлізаў і сьціплых вуличных акцыяў. У нас было радыё — у нас няма радыё. Вось і ўсё. У пэўным сэнсе гэта значыць, што мы былі — і нас ня стала. Бо радыё — гэта ня толькі (ці нават ня столькі) брыгада вяшчаньня, колькі аўдыторыя прыхільнікаў, сваё грамадзтва. Калі б замест закрытага радыё ў краіне пачало працаваць радыё падпольнае — гэта сьведчыла б пра тое, што акрамя антыбеларускага рэжыму ў нас існуе беларускае грамадзтва.

Але ў нас ёсьць толькі зародак беларускага грамадзтва. Чарговы іспыт на паўнавартасьць адбудзецца пры закрыцьці незалежных беларускіх газэт.

Эсэ Сяргея Паўлоўскага на старонцы 3.

АНОНС

## Канстанцін Паклонскі

Імя Паклонскага грымела па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. А што мы ведаем пра яго сёньня? Хто ён? Авантурнік? Шукальнік багацьця й славы? Храбры, хітры, жорсткі і крывадушны, як Багдан Хмяльніцкі, ці высакародны рыцар і змагар за ідэю, як Януш Радзівіл? Здаецца, у ягонай постаці дзіўным чынам спалучаліся ўсе гэтыя якасьці. Біяграфія Беларускага палкоўніка зьмягчае шмат чаго, што ня ў стане перадаць скупыя радкі энцыкляпэдычных слоўнікаў. Вайна 1648-1667 гадоў. І яе героі...

Канстанцін Вацлаў Паклонскі, ротмістар войска ВКЛ паходзіў з праваслаўнай беларускай шляхты гербу Сьлепаўрон. Калі нарадзіўся і дзе — невядома. Магчыма, перад тым, як род падпаў пад польскі ўплыў. Продкі са Жмудзі, пазьней асядаюць у Пінскім павеце, а Паклонскі зьяўляецца ўжо ў Магілёве. З Магілёвам зьвязаная яго бліскучая, хоць і кароткая кар'ера. Паводле багацьця горад не саступаў Вільні, і быў другім у ВКЛ. Магілёўцы заўсёды праводзяць хітрую палітыку ў дачыненьні са зьнешнім сьветам і грабуць пад сябе, адсюль спэцыфічны магілёўскі сэпаратызм, за які ўрэшце прыйшлося цяжка расплочвацца. Ім што Літва, што Маскоўшчына — усё адно, толькі б ня рушылі гарадзкіх вольнасьцяў.

Артыкул Андрэя Шпунта ў наступным нумары "НН".

ЛІТАРАТУРА

Эдгар Алан По

## УЛЯЛЮМ

Апублікаваны ўпершыню Эдгарам Аланам По ў часопісе "American Whig Review" ў сьнежні 1847 году, гэты верш першы раз быў пераўвасоблены па-беларуску ў 1991-ым. Алег Мінкін выканаў адметны высокаю культурай паэтычнага тэксту пераклад, які й зьмясціла ў сваім першым нумары адноўленая "Наша Ніва".

Мінкінаўскі варыянт "Улялюм" — строга адпаведны арыгіналу. А тым часам паявіўся і другі беларускі "Улялюм", пераўвасоблены з ангельскай не прафэсійным літаратарам. Валер Савіч зь Пінску яшчэ 3 гады таму ўзяўся за пераклад гэтага верша, нават ня ведаючы пра беларускія публікацыі паэтычнай і празаічнай спадчыны Эдгара По.

На старонцы 15.

Бэртольд Брэхт

## Цэзар

Цэзарызм — старажытнае захворваньне. Трэба, аднак, канстатаваць, што лекавы сродак на яго вынайдзены таксама даўно. Чытайце гістарычнае апавяданьне нямецкага пісьменьніка Бэртольда Брэхта.

На старонках 14-15.

## Вокліч

У гэтым вялікім кабінэце былі дзьве вылікія рэчы: пагоны і галава генэрал-лейтэнанта ФСБ Далмата Пятрова, які сядзеў ва ўтульным скураным крэсьле і гаварыў: стрымана, ёмка і насычана. Генэрал быў невялікага росту, нядаўна яму дабавілі зорку і ён пертварыўся ў генэрал-лейтэнанта, пасьля чаго неяк усох, здрабнеў, перарабіўся з каржакаватага здаравяка ў мізэрнага сухенькага дзядка ў форме зь непамерна вялікімі пагонамі...

Апавяданьне Кастуся Траўня пра футбольны матч паміж камандамі Беларусі і Расеі —

на старонках 12-13.

ГРАМАФОН



Новыя вершы даслалі ў "Грамафон" [...], Ніна Аксёнчык, Ананім, Аляксандар Антончык, Ганна Атрошчанка, Тацяна Будовіч, Усевалад Гарачка, Вольга Гаўрыльчык, Яўген Гучок, Андрэй Захаранка, Зьмітро Кудлаты, Мікола Кулік, Якуб Малодшы, Аляксандар Маскалевіч, Сяргей Патаранскі, Сяргей Прылуцкі, В.Псэўдонім, Браніслаў Пяткевіч, Антось Рускі, Тацяна Сьнітко, Тацяна Ульянычава, Юры Чарнякевіч, Віктар Шаціла, Ірэна Янчанка.

На старонцы 10.



PROMENADE

## Інтэрбрыгады для Эўропы

На Захадзе слова "Маастрыхт" у асяродках левардыкальна настроенай публікі выклікае прыкладна такія ж эмоцыі, што ў нас слова "інтэграцыя".

Напярэдадні Эўрапейскага саміту кіраўнікоў дзяржаваў наконт паглыбленьня інтэграцыі сваіх неславянскіх народаў уся левардыкальная братва з усяе Эўропы зьехалася на 14 чэрвеня ў Амстэрдам, каб паказаць праклятым стаўленікам манаполіяў "кузькіну маць". Пакінуць такую цікавую падзею без сваёй прысутнасьці мы зь сябрамі ніяк не маглі і таксама дзёрнулі ў сталіцу краіны ветракоў, каналаў і тульпанаў.

Promenade Паўлюка Канавальчыка на старонцы 6.

# Масу ілюзіяў — у масы

Запыхкаўшы ўсё навокал каўткім шызым дымам, па праспэкце паўзьлі БТРы, танкі, ГАЗікі і процьма жалязякаў малаявядомага, але пэўна што сур'ёзнага прызначэньня. Вуркатаньне вялікіх машынаў, на дзіва, ня выклікала захапленьня ў выпадковае публікі, якая міжволі стала сьведкаю рэпэтыцыі параду. Па-першае, няплянава быў сарваны рух транспарту, па-другое, салярны кураў дым еў вочы людзям, па-трэцяе, тэхніка... ня мела аніякіх апазнавальных знакаў, ні дзяржаўнае, ні нацыянальнае, ні нават вайсковае адзнакі. Па-проста едуць людзі ва ўніформе на зялёных машынах. Чым захапляцца?.. На сапраўдным парадзе разгорнуць савецкія сьцягі, начэпяць зоркі. Чым будуць захапляцца масы? Ілюзіяй магутнасьці рэжыму, ілюзіяй нязьменнасьці часу? "Мы павінны несьці масам ілюзіі, сур'ёзнага ім і без таго хапае ў жыцьці. Менавіта таму, што жыцьцё сур'ёзнае, людзі павінны быць прыўзьнятымі над будзённасьцю...", — казаў Гітлер найбуйнешаму дойліду Нямеччыны Шпэеру. Але і Гітлеру было вядома, што ілюзія мусіць быць прыгожаю. Дзеля гэтага ягонай Нямеччыне спатрэбіліся дзясяткі архітэктараў, мастакоў, дызайнэраў, кампазытараў і філёзафаў, нямецкіх філёзафаў...

Ці не найгалоўнейшая каштоўнасьць дзяржаўніцкіх ілюзіяў — іх дасканалая выробленасьць. Што казаць пра Беларусь, калі нават Міхал Савіцкі, сам што ні на ёсьць афіцыйны старшыня самае афіцыйнае камісіі па сымболіцы, дазволіў сабе не стрымацца: "... Сымболіка — паказальны прыклад, як у Беларусі вырашаюцца праблемы культуры... Усё робіцца з дакладнасьцю да наадварот: спачатку невядома хто прапануе эскізы — варыянты сымболікі, невядома хто зацьвярджае адзін з варыянтаў для перадвыбарчых плякатаў, а потым, пасьля рэфэрэндуму, ствараецца камісія, якая задняй датай павінна знайсьці найлепшае тлумачэньне гэтай сымболіцы!.. Зусім незразумела, чаму ў герб увайшла мапа Беларусі? У гісторыі не бывае жалезных межаў, і мапа краіны не адлюстроўваецца ў сымболіцы..." Ляпаватая сымболіка, тлум няўцямных яе тлумачэньняў... Ні цікавасьці, ні захапленьня не атрымалася. Куртатая ілюзія патрабуе бясконцага лапаньня, падшываньня, прышпільваньня.

Дзе рэжым шукае выйсьця? Па-першае, у рэанімацыі часткі савецкае парахні, падругое, у імітацыі праваслаўнае (г. зн. агульнай з Масквою) дзяржаўнае традыцыі. Атрымліваецца нягегла. Ілюзіі мусяць ствараць шчыра і адпавядаць самым шчырым, патаемным інстынктам масаў. Ілюзіі рэжыму ніколі не прамаўляліся шчыра, хіба толькі выпадкова, з прычыны гукапераймальня. Бо перад сёньняшнім беларускім рэжымам стаіць складаная, сюррэалістычная задача — адпавядаць ілюзіям масаў аж у двух, а калі пашанцуе, то і ва ўсіх пятнаццаці краінах. Маса, якая прагне вярнуць СССР, прагне вярнуць і ўсю без прарэхаў савецкую спадчыну. А спадчына СССР бяз Сталіна, як Польшчы безь Пілсудзкага, не бывае. А хто ўсё гэта панічаў наогул, таго заўтра вынясуць з маскоўскага маўзалею. Як тут дагодзіш Маскве? Адрынуць "нехарошае", пакінуць "харошае"? Як Нямеччына? Толькі праз ганьбу, трыбунал, пакараньне і пакаяньне!

У Расеі пачалі да гэтага падступацца. Але тады трэба будаваць зусім іншую, новую краіну. Для рэжыму гэта немагчыма, бо дзеля зьліцьця з суседам трэба апэляваць толькі да мінулага, "калі былі разам", зьнішчаць парасткі чагосьці там свайго, новага, іншага, што магло б непазьбежна дыстанцыяваць Беларусь ад Расеі. Ілюзіі, ілюзіі... Пайсьці ў фарватэр Расеі? Арлы, кіноры, залатагаловасьць? Пачнем з праваслаўя. У Беларусі гэтая традыцыя не дамінуе так адназначна, а ў рэальнай рэлігійнай практыцы займае сёньня наогул лякальнае месца. Але перад усім трэба ілюзіяністу быць шчырым! Гэта значыць, калі не глыбокім вернікам, то прынамсі не "праваслаўным атэістам". А якія ілюзіі захопяць нашых пратэстантаў, каталікоў, мусульманаў урэшце? Затым, трэба віртаць... "Пагоню", як той самы герб, які вісеў ад нашых губэрняў на скрыдлах расейскага арла, усю геральдыку з атрыбутыкаю. Ні кроку назад! Але... і не наперад?

Бурапеннае сьвяткаваньне "дня рэспублікі" з "днём Минска" — яскравая ілюстрацыя да параноідальнае падвоенасьці псыхікі сёньняшніх канцэптуальных інтэгратараў. Герб Менску, узьняты "нацыяналістамі" за Шушкевічам, паводле ўзору Цітова, вісіць сёньня ў кожнай краме, у кожным трамваі. Старасьвецкі герб, нададзены гораду ў 1591-м вялікім князем літоўскім, каралём Польшчы і Швэцыі, Жыгімонтам III Вазам, паводле эўрапейскіх узораў і ў адпаведнасьці з каталіцкай літургічнай сэмантыкаю, будзе суседзіць з чырвоным кумачом і савецкімі маршамі. "Накладка" аднаго сьвята на другое, прынамсі ў менчукоў, не павысіць павагі да новага прэзыдэнцкага сьвята. Забаўна, што сьвята Менску завецца ў афіцыйных публікатках "днём заснаваньня гораду", хоць адлік гадоў бярэцца ад першай летапіснай згадкі пра Менск, у сувязі зь ягоным зьнішчэньнем кіеўскім войскам. Гэтая жалобная дата шанавалася ў Менску і ў часы панаваньня Расеі, але менавіта як дзень журбы і памяці пра братабойчыя княскія звадкі. У мінулым стагодзьдзі на Нямізе, на месцы крывавае бітвы, пасьля якое Менск быў выразаны і спалены, стаяла сьціплая капліўка... Што будуць сьвяткаваць масы сёньня?

Сьвяты, вядома, патрэбныя. Патрэбныя і ілюзіі. Але ўсё мусіць быць шчырым. Ад дзейнасьці фашыстоўскіх ілюзіяністаў засталіся каласальныя пабудовы геніяльных дойлідаў — Бэрэнса, Шпэера, П'ячэнтыні. Ад марыянэтачнага рэжыму сёньняшніх ілюзіяністаў у Беларусі застанецца памяць пра кардонна-фанэрныя дэкарацыі, пакраску платоў і фасадаў цэнтральнага праспэкту, куча "сымболікі" і "сьвятаў", якім нават самы галоўны ілюзіяніст ня дасьць тлумачэньня. А значыць, гэта не ілюзія, а жыцьцё, жыцьцё цалкам сур'ёзнае...

Сяргей Харэўскі

# І я там быў...

Зьміцер Бартосік

На V зьезд БНФ я трапіў цалкам выпадкова. Уяўляю, колькі б шчасьця ў мяне было, калі б патрапіў сюды гадоў пяць таму. Легендарныя змагары ў прэзыдыюме, родныя сэрцу сьцягі ў залі, мілая вуху мова ў кулюарах... І чаканьне ад кожнага выступоўцы яснага ды, галоўнае, простага адказу на пытаньне "Што рабіць далей?"

А зараз я адказаў не шукаў. Я зайшоў на агеньчык. Дзе мяне адразу замілавала атмасфэра зьезду. Як заўсёды, зрэшты, заміloўвала мітынговая атмасфэра. Гнеўныя прамовы праваднікоў, амаль праз кожныя тры хвіліны крыкі "Жыве!!!", фразы кшталту "лукашысцкія засьценкі" ды "да апошняе кроплі"... Не хапала толькі Сокалава-Воюша зь гітараю ды Пазьняка з працягнутай рукой.

Хоць, Пазьняк прысутнічаў. Віртуальна і сьпіртычна. Праслаў касэту с праграмнаю прамовай аб вызвольным руху, якую вельмі жвава абмяркоўвалі пасьля старэйшыя. Маладзейшыя і так усё ведаюць. Школа менскіх вуліц канца 90-х гадоў дае неблагія ўрокі. Але, на жаль, маладыя твары ў залі не пераважалі. Але, усё ж, галоўныя апляадысмэнты сарваў маладафронтавец Павал Севярынец. Нават я, які заўсёды з падозраньнем стаўлюся да гучных фразаў і словаў, павінен прызнаць, што абраны імі лёзунг "Радзіма альбо сьмерць" сапраўды гучыць моцна і прыгожа. Асабліва на тле адвечнай стаўкі старэйшых на народ, які вось-вось прачнецца. Трэба, маўляў, рэжыму яшчэ трохі не паплаціць заробкаў, накруціць цэны яшчэ на пару-тройку віткоў. Ці ўвогуле пасласць той народ куды далей, — хочацца дадаць ад сябе. Балявы парог нашага народа дастаткова трывалы для любой акупацыі, ня кажучы ўжо пра сваю. Таму лепш ужо "Радзіма альбо сьмерць". Калі, натуральна, першае, як і другое, узапраўду. Асабліва цяплнёй зьезд сустрэў паведамленьне пра ідэю вылучэньня кандыдатуры Пазьняка на пасаду прэзыдэнта БНР. На пасаду старшыні БНФ іншых кандыдатураў не было і так.

Як добра, што я ўжо не чакаю ніякіх адказаў ні на якіх зьездах. Яны вядомыя. Тыя простыя адказы, што й задаюць калі ня лінію жыцьця, дык хаця б лінію паводзінаў. Ёсьць такая краіна Беларусь, і яна сапраўды належыць Эўропе (хай пакуль Эўропа не належыць ёй). У гэтай краіне ёсьць рух БНФ, адзіны нацыянальны і праэўрапейскі (а, галоўнае, яшчэ здольны на дзеяньні) рух. А ў гэтага руху ёсьць нязьменны і безальтэрнатыўны лідэр Зянон Пазьняк (якога запусьці хоць на Марс — ён і на Марсе будзе лідэрам беларускага адраджэньня). А калі ёсьць тры такія дамінанты, то што можа выглядаць больш кволым ды ўбогім за сёньняшні рэжым? І як пасьля такога ўсьведамленьня пакідаць V зьезд пэсымістам? А колькі іх яшчэ наперадзе! Вось толькі які зь іх адбудзецца, цытуючы Севярынца, "не ў ДК Тонкасуконнага камбінату, а ў Доме Ўраду"? Але ці так гэта важна. Галоўнае — верыць. Жыве Беларусь!

# Беларускі імпэрыялізм

Кожная нацыя, нягледзячы на свае тэрытарыяльныя, людзкія і інтэлектуальныя рэсурсы, мае сваю імпэрскую ідэю. Мару пра сваю вялікасьць і выключнасьць. Такая мара неабходная нацыі дзеля заспакаеньня, маўляў, мы ня горшыя за астатніх. Імпэрскасьць праўляецца па-рознаму — у мітах, што больш уласьціва малым нацыям; у апэляцыі да гісторыі, што ўласьціва нацыям, якія перажылі этап сваёй вялікасьці; у справах, што ўласьціва нацыям, якія перажываюць яго цяпер.

Суседзі Беларусі маюць свае імпэрыялізмы. Самых розных гатункаў.

Польскі варыянт "Польшчы ад мора да мора" паводле свайго характару падобны да расейскага, але палягае ў эўрапейскім кантэксьце, што ў часе яго праяваў не дазваляла яму набыць жорсткасьць, уласьцівую расейскаму. Але стаўка, як і ў Расеі, рабілася на сілу.

Расея пазбаўленая эўрапейскасьці і, спадзеючыся выключна на сілу, ніяк ня можа хоць на драбінку адысьці ад такой стратэгіі. Хоць сілы ўжо ня тыя, пік імпэрскасьці пройдзены. Таму ўзьнікаюць чачэнскія войны і розныя ўзброеныя канфлікты па-за межамі сёньняшняй Расеі. У Расеі яшчэ дастаткова сілы, каб палохаць сваім імпэрыялізмам, але ўжо недастаткова, каб утрымаць яго на былым узроўні.

Украіна, паводле мэнтальнасьці найбліжэйшая да Расеі, ня мае сёньня сілаў і магчымасьцяў раскруціць свой варыянт імпэрскасьці, узьняўшы лёзунг УНСО — "Наша Батьківщина. Украіна-Русь" над мапай былога СССР. Да таго ж у сучасных умовах, калі Ўкраіна прыйдзе ў Эўропу, пэрспэктыва ўкраінскага імпэрыялізму выглядае ніякавата.

Літва задаволілася ўласнаручна створанымі мітамі і далучэньнем Вільні, якую ніяк ня можа праглынуць. Гэтае места паводле свайго патэнцыялу ня здольнае стаць сталіцай эўрапейскага хутара, які цяпер спрабуюць пабудаваць у Літве.

Дарэчы, вялікая Вільня і для ўласна Беларусі. Зразумела, не для сёньняшняй. А для Беларусі нармальнай, эўрапейскай.

Што тычыцца беларускага імпэрыялізму, то ён палягае ў іншым кантэксьце, чым імпэрскасьць суседзяў нашай краіны.

Стаўка на сілу для Беларусі выключаная. Нават калі апэляваць да гісторыі, да залатога веку Вялікага Княства, то і тады, калі было дастаткова сілы, яе выкарыстоўвалі сьціпла.

Альгерд, прыхіліўшы дзіду да маскоўскае брамы, тым ня меней, не бурыў Масквы. Ягайла, ужо быўшы каралём польскім, на Куліковым полі не далучыўся да Арды. Вітаўт таксама пашыраў свой уплыў, больш выкарыстоўваючы дыпляматыю, чым сілу.

Беларускі імпэрыялізм мірнага, дыпляматычнага кшталту. Спробу сьцьвердзіць сваю выключнасьць Беларусь магла, занняўшы статус цэнтра рэгіёну. Гэта і раней, і сёньня магчыма толькі ва ўмовах паразуменьня з суседзямі і ня толькі з суседзямі.

Беларусі патрэбныя ня толькі Вільня, Смаленск, Беласток. Беларусі патрэбнае значна большае. Каб засьведчыць сваю імпэрскасьць і выключнасьць, Беларусі патрэбны Літва, Расея, Польшча, Украіна цалкам. Гэта магчыма зрабіць, толькі зрабіўшыся цэнтрам іхных сувязяў і дачыненьняў. А гэта магчыма, толькі жывучы ў рэжыме дыялёгу, а не супрацьстаяньня. Таму пашырэньне NATO стварае для Беларусі праблемы, а саюз з Масквой проста разыходзіцца з нашымі геапалітычнымі інтарэсамі.

Гэткая беларуская імпэрскасьць падсьвядома прысутнічае і будзе прысутнічаць у любым беларускім урадзе. У беларускім па-сутнасьці, што і паказалі часы аднаўленьня незалежнасьці. Нэўтралітэт Шушкевіча, вышаградзкая прамова Грыба.

Беларуская імпэрская ідэя ня можа існаваць побач з імпэрскай Расеяй, таму так хутка рэжымы беларускія ў Беларусі зьмяніліся на рэжым расейскі. Пачалі ўзьнікаць новыя ідэі, то савецкая, то славянская — усе маскоўскага гатунку, якія працуюць на расейскі імпэрыялізм.

Спробы залучыць нас ці то да савецкіх людзей, ці то да расейцаў, ці то да балтаў адбіраюць у Беларусі ідэю яе імпэрскасьці. Нашу мару. Самарэалізацыю. Знаходзячыся на скрыжаваньні культур і сыстэмаў, Беларусь можа нармальна існаваць толькі ў рэжыме імпэрыі. Імпэрыі далікатнай. У гэткім выпадку Вільня будзе нашай сталіцай, бо гэты горад, які таксама стаіць на сумежжы культур, нягледзячы ў якой краіне будзе знаходзіцца адміністрацыйна, будзе сталіцай не адной краіны, а рэгіёну, цэнтрам якога зьяўляецца Беларусь.

Алег Дашкевіч

# Будзь гатовы!

Калі летась у верасьні ўлады закрылі Радыё 101,2 FM, гэта не зьмяніла становішча ў краіне. Усёдазволенасьці рэжыму не было супрацьпастаўлена нічога, акрамя прэс-рэлізаў і сьціплых вулічных акцыяў. У нас было радыё — у нас няма радыё. Вось і ўсё. У пэўным сэнсе гэта значыць, што мы былі — і нас ні стала. Бо радыё — гэта ня толькі (ці нават ня столькі) брыгада вяшчаньня, колькі аўдыторыя прыхільнікаў, сваё грамадзтва. Калі б замест закрытага радыё ў краіне пачало працаваць радыё падпольнае — гэта сьведчыла б пра тое, што акрамя антыбеларускага рэжыму ў нас існуе беларускае грамадзтва.

Але ў нас ёсьць толькі зародак беларускага грамадзтва. Чарговы іспыт на паўнавартасьць адбудзецца пры закрыцьці незалежных беларускіх газэт.

Цяпер у Беларусі няма ніводнага сур'ёзнага падпольнага сродку масавай інфармацыі. Зразумела, што ніводная незалежная газэта і не імкнецца стаць нелегальнай. Бо гэта непазьбежна прывядзе да звужэньня аўдыторыі і абмяжуе магчымасьці працы рэдакцыі. Пераход у падпольле магчымы толькі з ініцыятывы рэжыму.

Сёньня рэжым абкладае незалежныя СМІ пракурорскімі папярэджаньнямі, стварае невыносны эканамічны рэжым, часам нават учыняе пагромы ў рэдакцыях газэт. Цэлая маса абмежавальных інструкцыяў неўзабаве абернецца новым антыдэмакратычным законам аб друку, а сэрыя дробных рэпрэсіяў супраць газэт выльецца ў татальную перарэгістрацыю. Усё гэта прывядзе да лягічнага, "законнага" закрыцьця выданьняў. І вось тут пытаньне — толькі да закрыцьця ў афіцыйным полі ці да спыненьня дзейнасьці?

Уявіце сабе падпольную газэту "Биржи и банки" або, скажам, нелегальнае тэлебачаньне. Газэта "Свабода" мае цэлую гісторыю падпольнага існаваньня, а вось нелегальная "Наша Ніва" (з апавяданьнямі Борхеса і артыкуламі пра людзей каменнага веку, са сваім кніжным і аўдыёрынкам) уяўляецца пакуль слаба. Так ці інакш, а зьяўленьне ў падпольлі названых выданьняў будзе сьведчыць пра жывое беларускае грамадзтва (таксама падпольнае) і пра тое, што запушчаны гадзіньнік канца рэжыму. У шэрагу гістрычных заканамернасьцяў гэта будзе для Беларусі эвалюцыйны крок.

Яшчэ два гады назад мы разважалі пра тое, як "Наша Ніва" выйдзе на прэсавы рынак, а сёньня... Сябра ўскліквае: і ўсё з-за аднаго... (далей ідзе нецэнзурнае слова).

Цяпер мы ўжо ведаем, што не з-за аднаго, або з-за аднаго, які ў нашай краіне сядзіць ці ня ў кожным. Нацыянальная ідэя, не пераможцы, застаецца пакуль прыгожай марай. Яна, наблізіўшыся было да рэальнасьці, цяпер імкліва аддаляецца ад яе, чым спараджае ў многіх сваіх прыхільнікаў роспач. Няўжо ўсё спачатку? Такі напружаны драматызм разьліты сёньня ў беларускім паветры. Матэрыялізаваўся савок. І мы бачым, як прэзыдэнт Лукашэнка вызірае зь людзей, якія ідуць па вуліцы, нібы той омэн у амэрыканскіх кінастрашылках.

Мы мусім супрацьпаставіць яму наша беларускае грамадзтва. Вось дзе адна з крыніцаў нашага аптымізму.

Два гады нацыянальная ідэя, нібы джын у бутэльцы, сядзела, прыглушаная вобразам першага прэзыдэнта і разгублена варажыла: ці яна яшчэ джын ці ўжо труп? Нейкі час спасьціжэньне сутнасьці новага рэжыму зрабілася нават важнейшым за некаторыя адраджэнскія прынцыпы. А журботная радасьць ганьбаваньня Лукашэнкі заступіла сабою радасьць далучэньня да беларушчыны і нават радасьць жыцьця. Мы нібы ператварыліся на час у таго героя Дастаеўскага, Раскольнікава, які "заўсёды прыходзіў у той завулак, калі яму гідка было, каб яшчэ гідчэй было". Думаю, менавіта з такім пачуцьцём прыступалі многія да сваіх зьнішчальных опусаў пра Лукашэнку. Але вось, нарэшце, аб'ект вычарпаны. Выбраны да канца. І раптам сталі набываць сэнс іншыя людзі і самое жыцьцё за вакном. Нацыянальная ідэя таксама пачынае набываць паздаравелы пасьля хваробы, абноўлены сэнс.



Здымак Ігара Саўчанкі.

Мяркуючы з пошты "НН", з размоваў і іншых газэтаў, у Беларусі патроху мяняецца грамадзкі настрой. Нечым ён нагадвае самы пачатак 90-х, толькі ўжо зусім без эйфарыі і бязь веры ў цуд. Крытыкаваць Лукашэнку надакучыла. Трэба падумаць, як жыць.

І таму сёньня ўжо больш хочацца гаварыць пра альтэрнатывы, напрыклад, пра новыя прэзыдэнцкія выбары. Зноў набываюць сэнс развагі над нацыянальнай ідэалёгіяй. Марудна, але няўхільна позіркі павяртаюцца зь сёньня ў заўтра.

Звонку нічога істотнага не зьмяняецца. Архівы КГБ па-ранейшаму задраеныя, як ілюмінатары субмарыны. Прэзыдэнт стварае "партызанскую" камісію, якая мусіць ахоўваць іголку з жыцьцём дракона — слаўныя традыцыі рэйкавай вайны. Паранейшаму грымяць выбухі, толькі цяпер не на чыгунцы, а на трубаправодах. Калі гэта сапраўды тэракты супраць акупацыйнага рэжыму, то сэнс іх той самы, што і ў рэйкавых выбухах. Дзеля таго, каб сагнаць зь цела паразіта, труціцца само цела. Цікава, ці будуць у гэтых героях барацьбы з Газпромам калі-небудзь свае пільныя вэтэранскія органы?

Па-ранейшаму афіцыёзныя газэты трашчаць пра інтэграцыю як волю народа. Пасьля ратыфікацыі новага саюзу з Расеяй Лукашэнка заявіў, што мы толькі ў самым пачатку вялікай работы. Гэта значыць, што трашчаць будуць яшчэ доўга. Да канца прэзыдэнцтва. Але гэта ўжо нават не раздражняе. Як некалі ўжо не раздражняў, напрыклад, лёзунг "Партыя — наш рулявы". Яшчэ трохі і прарасейскія патугі рэжыму замест злосьці пачнуць выклікаць сьмех.

Словам, вонкавае жыцьцё застаецца нязьменным. І якраз дзякуючы гэтай нязьменнасьці беларушчына як быццам ачынаецца ад цяжкае двухгадовае летаргіі. У сфэры нацыянальнае ідэі пачынае зьяўляцца штосьці новае. Яшчэ больш зьяўляецца жаданьня і прадчуваньня новага.

У газэту зноў прыходзяць допісы з прапановамі зьмяніць назву краіны, распавесьці пра балцкія плямёны Беларусі, надрукаваць што-небудзь на лацінцы. Звычайна такія прапановы ўзьнікаюць у нэафітаў, або ў людзей, стомленых застоем нацыянальнае думкі. Можна сабе ўявіць тую лёгкасьць вырашэньня ўсіх праблем, якая саграе душы аўтараў. Заявім, папершае, што беларусы — гэта балты, а ніякія не славяне. Па-другое, пераназавем краіну ў Літву ці Вялікаліту ці ў штосьці падобнае. Па-трэцяе, пяройдзем на лацінку. Тады натуральная арыентацыя для нас — скандынаўская, ну і ўсё як у іх, у Скандынавіі. Ніякай табе русіфікацыі, славянафілы адсякаюцца на корані. З гісторыі бярэм агонь, а ня попел. Успомнім Рагвалода з Рагнедай — апякункай зямлі Беларускай. І зажывем.

Усё гэта гучыць да сёньняшняй вулічнай сьвядомасьці досыць кантрасна. Але такія ідэі маюць шанец у моладзі. І потым, якая ў нацыянальнай ідэалёгіі альтэрнатыва? Усходнеславянская, расавая? Ці сярэднеэўрапейская, геапалітычная? Я пазіраю на Літву, якая, здаецца, нікому нічога ня кажучы, абрала сабе арыентацыю заходнеэўрапейскую і на гэтым шляху ўжо ў нечым апярэдзіла Польшчу. Мяркуючы хоць бы з таго, колькі псыхозу адчуваецца ў агульнаграмадзкім настроі. Захад, у маім разуменьні, — гэта адстанасьць псыхозу, індывідуалізм і наладжаны сэрвіс. Чым далей на ўсход, тым болей у людзях знэрваванасьці. Расея ў гэтым сэнсе — вяршыня. Там людзі гавораць пра палітыку з такой экспрэсіяй, што пачынаюць заікацца. Здаецца, мы збольшага не такія. Акрамя гэтага, у славяншчыне нам нічога ня сьвеціць, бо беларусы не калектывісты, а нават наадварот. Лукашэнка — гэта чыста савецкая настальгія і савецкі атавізм. А трэба ж думаць пра заўтра.

Балцкая ідэалёгія, бадай, мела б шанцы на заўтра. Толькі спачатку нехта мусіць яе стварыць, выпісаць, зрабіць прывабнай. А тады ўжо на ёй меў бы шанцы ўзьехаць на пасад новы прэзыдэнт краіны. Якраз гадоў праз пяць, калі людзям канчаткова абрыдне панславянскае клікушніцтва прэзыдэнта цяперашняга.

Можа быць, гэта наш нацыянальны лёс або ўзровень разьвіцьця: дзяліцца па лініі балты-славяне так, скажам, як ангельцы дзеляцца на кансэрватараў і лейбарыстаў.

Раптам адчулася, што 2000 ці, у горшым выпадку, 2002 год — гэта ня так і далёка. Можна ўжо складаць выбарчыя праграмы. Напэўна, такую працу запляналі сабе на заўтра спадары-прэтэндэнты. Чым раней яны выйдуць на старт, тым болей шанцаў у нас з вамі, тым больш моцны будзе пераможца. Мне здаецца, што дастаткова сёньня аднаму з прэтэндэнтаў дзе-небудзь зрабіць заяву пра сваё балатаваньне, як уся сытуацыя набудзе раптам сур'ёзны выгляд. Аналітыкі займуцца раскладамі, з радасьцю пакінуўшы абрыдлы аб'ект для біцьця. Газэта "Имя" спрабуе заняцца новымі выбарамі ўжо ня першы год, але раней, мабыць, яшчэ не прыйшоў час. Прэзыдэнцкая кампанія пачынаецца сёньня, як і ўсё новае, што пачынаецца ў Беларусі.

Так думаецца. Праўда, варта адвесьці позірк убок і ўбачыш аркуш, які вылазіць з факсу і паведамляе пра чарговы суд над чалавекам з дэмакратычнымі поглядамі. І возьмешся пісаць скаргу Генэральнаму пракурору на яго намесьніка за тое, што вынес тваёй газэце цалкам ідэалягічнае папярэджаньне. А пасьля адчыніш дзьверы і чалавек з прэс-службы КГБ перадасьць табе свой альтэрнатыўны артыкул на адну з публікацыяў у "Нашай Ніве". Словам, усё ідуць і ідуць тыя непрыемнасьці. Але настрой, чамусьці, ня хоча псавацца, як гэта было раней. Ён, настрой, да гэтага ўжо прывык. Ён ужо зьведаў прадчуваньне новага часу.

**Сяргей Паўлоўскі**

## ПОШТА

4 чэрвеня 1997 г. мы зьвярнуліся ў ЗАГС Заводзкага раёну г. Менску з мэтаю падачы заявы на рэгістрацыю шлюбу.

Загадчыца ЗАГС адмовіла нам у магчымасьці запаўненьня адпаведнага бланку на беларускай мове, аргумэнтуючы гэта тым, што справаводзтва Міністэрства юстыцыі ідзе па-расейску, "так як у нас двуязычые".

Мы запыталі, ці зможам мы атрымаць пасьведчаньне аб рэгістрацыі шлюбу на беларускай мове, і атрымалі адказ —"не", таму што справаводзтва вядзецца на расейскай мове.

Мы запыталі, чаму, калі ў нас афіцыйна дэкляраванае дзьвюхмоўе, тыя беларускія грамадзяне, якія размаўляюць і думаюць па-беларуску, ня могуць скласьці неабходныя дакумэнты на рэгістрацыю свайго шлюбу на беларускай мове і, адпаведна, атрымаць дакумэнты аб рэгістрацыі на беларускай мове. Загадчыца ЗАГС адказала нам, што справаводзтва вядзецца на кампутарах і, калі мы жадаем, дык "можам заплаціць 10 мільёнаў за капутарную праграму". Але, напрыклад, гэты зварот без праблемаў напісаны на кампутары.

Першае. Мы не разумеем, чаму мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусі, карыстаючыся беларускай мовай, павінны зьвяртацца ў беларускія дзяржаўныя ўстановы толькі па-расейску, тым болей, калі гэтае становішча аргумэнтуецца тым, што "у нас дзьвюхмоўе". Мы не разумеем, чаму мы ня можам атрымаць пасьведчаньне аб рэгістрацыі нашага шлюбу на беларускай мове — дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусі.

Таму мы чакаем тлумачэньняў ад Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусі па гэтым факце парушэньня нашых грамадзянскіх правоў, замацаваных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і Міжнароднай Дэклярацыі правоў чалавека.

Другое. Мы жадаем у прызначаны час 25 ліпеня 1997 г. пад час рэгістрацыі нашага шлюбу атрымаць пасьведчаньне аб рэгістрацыі на беларускай мове. Таксама мы жадаем, каб запісы аб шлюбе ў нашых пашпартах былі выкананыя на беларускай мове і просім Міністэрства юстыцыі зрабіць дзеля гэтага адпаведныя захады.

Трэцяе. Мы прапануем Міністэрству юстыцыі Рэспублікі Беларусі ажыцьцявіць на працягу бягучага году забесьпячэньне справаводзтва і на беларускай мове дзеля забесьпячэньня правоў беларускамоўных грамадзянаў Рэспублікі Беларусі і перадухіленьня канфліктаў на нацыянальнай і моўна-культурнай глебе.

Чацьвертае. У выпадку наступных парушэньняў нашых правоў мы будзем вымушаныя зьвярнуцца ў судовыя ўстановы.

**Максім Капран, Эла Мацьвіенка**

# перад успамінамі

якія сапраўды ўдзельнічалі ў партызанскім руху". Адбываецца падмена сэнсаў.

У гэтай "пракурорскай" гісторыі ёсьць яшчэ адзін мэтадалягічны сюжэт. Савецкая гістарыяграфічная канцэпцыя сфармавала вельмі жорсткую тэрміналягічную намэнклятуру, паводле якой партызанамі часоў II сусьветнай вайны ў Беларусі называюцца толькі партызаны савецкіх фармацыяў, а партызаны ўсіх іншых фармацыяў могуць называцца толькі бандытамі. Але менавіта ўспаміны сьведчаць, што побач з дамінуючым сюжэтам вайны паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам існавалі іншыя плыні ваеннага жыцьця — апроч савецкіх партызанскіх аддзелаў дзейнічалі партызаны польскія, украінскія, незалежныя беларускія. Распаўсюджанай зьявою на акупаванай тэрыторыі быў бандытызм.

Тут варта вярнуцца да публікацыі ў "Нашай Ніве", з-за якой распачаліся напады на газэту. Гэтая публікацыя пераважна грунтавалася на ўспамінах сп. Васіля Струпаўца са Слоніма. Адразу пасьля зьяўленьня інфармацыі пра папярэджаньне "Нашай Ніве" газэта атрымала натарыяльна завераны дакумэнт, у якім сп. Струпавец пацьвярджае свае словы. Гэты дакумэнт публікуецца побач.

Калі распачынаць судовы працэс, то "Наша Ніва" гатовая паспрачацца пра факты. Бо за газэтаю — задакумэнтаваныя ўспаміны, факты беларускай гісторыі. У "Афіцыйным папярэджаньні" наадварот — рэальна пра права там гаворыцца вельмі мала, затое гэтае папярэджаньне цалкам адпявядае патрабаваньням ідэалягічнага дакумэнта.

"Наша Ніва" стварыла прастору для дыскусіі на тэмы II сусьветнай вайны. Сталы чытач заўважыў, што на палосах газэты друкаваліся матэрыялы рознай накіраванасьці й розных поглядаў на гэтыя падзеі. Цяпер гэтую дыскусійную прастору спрабуюць абмежаваць.

Такім чынам, можна казаць пра палітычную акцыю з боку пракуратуры, калі дыскусіі вакол гістарычнай праблемы разглядаюцца ў ідэалягічным кантэксьце. Можна сьцьвярджаць, што мы маем справу са спробамі спыніць у Беларусі усялякія дыскусіі на тэму II сусьветнай вайны.

Але ці можна схаваць сьведкаў? Ці можна зьнішчыць усе запісаныя ўспаміны й іх публікацыі?

**Алег Дзярновіч**



Асведчанне

Я, Струпавец Васіль Васілевіч, 1923 г. нар., ураджэнец вёскі Якімавічы Слонімскага раёну, пацьвярджаю, што усе факты, прыведзеныя Сяргеем Ярвом у артыкуле "Што яны выраблялі!" /Наша Ніва, 10 сакавіка 1997 г./ адпавядаюць сапраўднасці. Зьдзекі над маёй сям'ёй, нада мной асабіста і над маімі аднавяскоўцамі здзяйснялі партызаны савецкага атрада імя Панамарэнкі: Іван Зайцаў, камандзір атрада; Петр Бухараўскі, камандзір роты; Іван Багуслаўскі, Азановіч – асабіста ды іншыя. Прыведзеныя у газетнай публікацыі мае словы я гатовы пацьвердзіць у судзе, калі у гэтым будзе патрэба.

Мая сям'я расстраляная: І. Зайцавым і І. Багуслаўскім у красавіку 1943 г. Тады загінулі: бацька – Васіль Рыгоравіч, 1893 г.н., маці – Соф'я Ільлінічна, 1910 г.н., браты: Коля, 1930 г.н., Міша, 1932 г.н., сястра Рая, 1943 г.н....

02.06.1997 г. Струпавец В. В.

Нотариус свидетельствует подлинность подписи не удостоверяя фактов изложенных в данном документе

... 1997 года Я, ... государственный нотариус ... государственной нотариальной конторы ... свидетельствую подлинность подписи гр. Струпавец Василий Васильевич, которая сделана в моем присутствии. Личность подписавшего документ установлена.

Зарегистрировано в реестре за № 3-915

Взыскано государственной пошлины 0-80 ...

Государственный нотариус

# за кулю

рантаў. Мне было сорамна перад ім.

Першыя ўцёкі зь лягеру былі непасьпяховымі. На пяты дзень нас злавілі. Уцякаць у саракаградусны мароз было цяжка. Немцы цікавіліся, як мы ўцяклі. Я адказаў, што не магу сказаць, бо яшчэ буду ўцякаць. Афіцэр кажа: "Я вас разумею, я сам быў у францускім палоне ў першую вайну". Гэта быў афіцэр яшчэ старой арміі, а не нацыстоўскай фармацыі. "Я ведаю, як вы знайшлі компас, перарэзалі дрот, але больш не ўцячэце, бо мы вас на захад адкінем". У лягеры мы былі як героі, бо ніхто да нас ня змог уцячы. Нас адвезьлі ў Галяндыю, дзе мы таксама ўцякалі 10 траўня 1940 году, потым зь іншага лягеру спрабавалі ўцячы, але за муры форту выйсьці было немагчыма. Скантактаваўся я з арганізатарам уцекачоў ангельскіх палонных. Пасьля даволі цяжкіх перамоваў удалося выменяць прадукты на цывільную адзежу. Вызваліся дабраахвотнікамі чысьціць прыбіральні нямецкіх афіцэраў. Адзелі цывільную адзежу падспод і выйшлі. Каля гадзіны чацьвертай мы ўцяклі. Да поўначы сядзелі ў балоце. Нас не знайшлі.

Нарэшце мы дабраліся да савецкай мяжы, але савецкі бок закрыў мяжу і не прымае палонных назад. На мяжы мы працавалі ў паляка пару дзён. Нарэшце, здолелі перайсьці мяжу ў Беларусь. У першай жа хаце, куды мы зайшлі, нам сказалі, што мы дурныя і лепш, каб мы вярталіся назад і прыйшлі разам зь немцамі іх вызваляць. Для мяне гэта быў страшэнны ўдар. Назад да немцаў я ня мог ісьці і вырашыў застацца. Вярнуўся дахаты, спаткаўся з маці. Мая спроба вучыцца ў Львове была запознай. Тады я ўладкаваўся ў Любчы настаўнікам у школу — у замку.

Школа была расейскай. Калі я пацікавіўся ў дырэктара, чаму так сталася, што тут у Любчы, дзе акрамя папа ніхто па-расейску не гаворыць, — расейская школа, той у мяне пытае: "А Вы што — нацыяналіст?" Я кажу: "Так, калісьці мы з палякамі змагаліся за беларускую школу, цяпер Беларуская савецкая рэспубліка — і зноў расейская школа". Ён сказаў "Да-да". На гэтым нашая дыскусія закончылася. Праз месяц мяне арыштавалі й даставілі ў Баранавічы, потым у Менск, у "амэрыканку".

Пра сьледзтва нават цяжка гаварыць. Хто тады прызнаваў сваю віну, таму давалі па 10 гадоў і ўсё. А я ня мог прызнаць, бо сваім прызнаньнем я абвінавачаў бы Васіля Рагулю, былога сэнатара ў Польскім парлямэнце і Чатырду, які быў таксама кандыдатам у парлямэнт. Мяне абвінавачвалі ў тым, што ад іх меў шпіёнскае заданьне й быццам бы арганізаваў армію ў Налібоцкай пушчы. Я тады яшчэ пасьміяўся, што Напалеону спатрэбілася сто дзён, а я не Напалеон. Я тут ня быў яшчэ нават ста дзён.

Выклікалі на допыт амаль кожны дзень ад паловы студзеня 1941 году да канца траўня. Кожную ноч бралі на сьледзтва. Вельмі цяжка ўспамінаць, як гэта было: фізычны зьдзек, маральны зьдзек. І там мяне абяцалі на Курапаты паслаць. Прыклаўшы пісталет да галавы казалі: "Не прызнаесься, сем капеек куля каштуе і маці не даэнаецца, дзе ты ёсьць у лесе недалёка ад Менску". Тры дні не чапалі, а пасьля выклікалі і прачыталі абвінавачаньне зь сямі параграфаў. У адным зь іх быў шпіянаж — найцяжэйшае, былі артыкулы 58, 72, 130. Прысуд: сьмерць праз расстрэл. Але яны прапанавалі выбар: я мог пісаць да Сталіна просьбу замены на 25 гадоў лягера. Трэба ж было нешта зрабіць, каб не адразу расстралялі. Я падпісаў гэтую просьбу да Сталіна і мяне пасадзілі ў камэру прысуджаных на сьмерць — камэра 17.

Сьцены там былі сьпісаныя — хто прысуджаны на сьмерць, шмат прозьвішчаў. Некаторыя ў роспачы разьбівалі сабе галаву аб сьцену. Я спрабаваў зрабіць з хлеба шахматы — бо мы яшчэ жывыя. Тым часам, а гэта было 21-га чэрвеня, мы пачулі выбухі, падумалі, што, можа, якія манэўры. Тады ў нашую камэру ўкінулі 18-гадовага хлопца, які сказаў: "Хлопцы, вайна!" У 5 гадзінаў раніцы загадалі выходзіць, зьбірацца, вывелі нас на падворак "амэрыканкі", вывелі на вуліцу. Там ішла калёна з гарадзкой турмы. Я падумаў, каб у тую калёну трапіць. На шчасьце, наляцеў нямецкі "штукас" — гэта бамбавікі, што мелі моцны гук, пачалі бамбіць. Мы зьвязаныя былі. Пасьля тым, хто быў з "амэрыканкі", загадвалі выходзіць, а інакш расстраляюць усіх.

Потым, ужо ў Чэрвені пачалі казаць, што той, хто прызнаецца, будзе памілаваны, а хто не — расстраляны. Я ведаў свае артыкулы, ведаў, што мяне ўсё адно расстраляюць. Там быў адзін інжынэр. Кажа: "Слухай, не признавайся". З наўтопу пачалі выклікаць па адным. Я прыкінуўся простым, дурным мужыком, бо выглядаў адпаведна — быў абросьлы і страціў сорак фунтаў. Выйшаў і сказаў па-беларуску — ня ведаю, які параграф, абвінавачваюся ў тым, што загадалі высекчы і вывесьці 30 кубамэтраў дроваў, а я гэтага ня змог зрабіць, вось мяне і пасадзілі. Уначы, калі большасьць вартавых зьнікла, турму адчынілі. За 5 хвілінаў тысячы людзей разьбегліся. Я падаўся ў лес, каб перачакаць крыху. Колькі быў там, ня помню.

Аднойчы раніцай выйшаў зь лесу, бачу, нямецкі танк стаіць. А я па-нямецку гавару. Выйшаў, кажу "Guten Morgen! Guten Morgen!" Сказаў, што ўцёк з турмы, дык дайце мне паперку, каб я да дому дайшоў. А яны кажуць: "Ты па-нямецку гаворыш, дык да дому дойдзеш". А немцы былі такія — кім ты ня быў, калі размаўляеш панямецку, то ты добры чалавек і табе давяраюць. Яны мяне адпусьцілі і я пайшоў дадому. Раптам: "Рукі ўверх!" Гэта былі энкавэдысты. "Ты адкуль?" "Іду з турмы запісвацца ў Чырвоную Армію". Прыходжу я ў Менск — і зноў удар. Немцы расстралялі палонных на вуліцы ў Менску.

Я накіраваўся дадому пешкам. У Налібоках мяне арыштавалі, бо думалі, што шпіён. Адзін мясцовы чалавек — ён быў яшчэ ў польскай паліцыі, а цяпер у нямецкай, — ня мог мяне пазнаць. Я яму: "Ты ж з маёй дваюраднай сястрою хадзіў, ты ж у Любчы быў". Ужо фурманкаю я ехаў дадому.

Сэрца чула, што нешта чакае мяне страшнае. Загінула мая мама. Гэта было для мяне вялікім ударам. Я вырашыў больш не ваяваць, трэба адпачыць. Але аднойчы да мяне прыйшоў Міша Рагуля са Львова. Я яго спытаў: "Ну што, цяпер будзем рыбу лавіць?" "Не, — кажа, — няма часу на гэта, мусім ісьці змагацца за Беларусь". І на гэтым мой адпачынак скончыўся. Потым была мая першая публічная прамова перад сялянамі. Пасьля чаго дзядзька Рагуля мне і кажа: "Едзь, Барыс, у Наваградак і па магчымасьці ствары беларускую арганізацыю". У Наваградку я стаў перакладчыкам.

Нам удалося да пэўнай меры апраўдаць тых беларусаў-нацыяналістаў, якіх палякі падалі як камуністаў, а немцы расстрэльвалі. Каб апраўдаць іх, я і стаў перакладчыкам. А польскія перакладчыкі прыехалі з Бэрліну як беларусы, яны былі асаднікамі, ведалі беларускую мову. У Бэрліне запісаліся ў Беларускі камітэт і прыехалі ў Беларусь як беларусы рабіць польскую работу. Было цяжкае змаганьне. Яны цалкам апанавалі паліцыю і жандармэрыю. Мне ўдалося апанаваць Галоўны камісарыят. Там быў такі немец Воксмаер, які хоць і быў нацыстам, але аказаўся вельмі культурным і зразумелым чалавекам. Ён закахаўся ў адну з нашых дзяўчат — і гэта дапамагло. Былі створаныя Беларускі дом, хор, разьвівалася мастацтва. Тады Орса — ён быў настаўнікам маім — кажа: "Барыс, нам трэба школу!" Немцы не хацелі адчыняць сярэднія школы, а толькі народныя. Я сказаў ім, што мы мусім гадаваць настаўнікаў для гэтых школ. Тады мы стварылі беларускую сэмінарыю, а пасьля і гімназію. Былі 3 выпускі. У гімназіі праводзілі вайсковыя заняткі. З гэтай гімназіі пасьля склаўся ў асноўным мой эскадрон. Былі спробы стварэньня беларускай самаахоўы. Але немцы нам не давяралі. На прапанову наваградзкага камісара я паехаў у Нямеччыну, куды нашыя людзі дабраахвотна паехалі працаваць, спадзеючыся атрымаць там адукацыю. Ён ня ведаў, што я быў калісь у нямецкім палоне. Усе ў горадзе ведалі, але ніхто мяне ня выдаў.

Беларусы ў Нямеччыне былі хіба ў горшым становішчы за жыдоў. Беларусы мелі знакі "Ost" і жылі ў жудасных умовах. Працавалі па 14 гадзінаў у дзень. Я гэта пабачыў і вырашыў, што гэта трэба неяк зьмяніць, каб яны туды больш ня ехалі. Я вярнуўся дадому, пайшоў у нашую сэмінарыю, сказаў хлопцам, каб перадалі па вёсках, каб ніхто не ехаў на працу ў Нямеччыну. І калі будуць сілай забіраць, то каб уцякалі. Гэта дайшло да камісара і ў сакавіку 1942 г. мяне выгналі з працы. Гэтым часам і пачаўся рух.

Я мяркую, рух пачаў Гадлеўскі, але Родзька быў фактычна кіраўніком, тады ён быў бургамістрам у Віцебску. У той час яму было, як і мне 21-22 гады. І ён мне запрапанаваў паступіць у Беларускую Незалежніцкую Партыю. Першае спатканьне было ў пачатку чэрвеня ў памяшканьні Саковіча, які зьяўляўся кіраўніком паліцыі ў Менску, і які быў фактычна першым сьведкам расстрэлу жыдоў і беларусаў на вуліцах Слуцку. Ён падаў рапарт Кубэ, які лічыў гэта няправільным. Кубэ наогул быў у няласцы ў Нямеччыне, і яго паслалі ў Менск, каб ён тут выправіўся. Гімлеру ён не падабаўся й ён імкнуўся Кубэ зьнішчыць. Кубэ, а пасьля і Саковіча забілі самі немцы. Бо Саковіч складаў рапарт са Слуцку. Яго забілі ў Лідзе.

**В.Н.: Сьцьвярджаецца, што Кубэ забіла, выконваючы савецкае заданьне, адна жанчына...**

**Б.Р.:** Не, забілі Кубэ немцы.

**В.Н.: А ці ёсьць якія-небудзь доказы ці факты?**

**Б.Р.:** У сваёй кнізе "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" Юры Туронак дае доказы, што гэта была нямецкая акцыя. Гімлер лічыў, што Кубэ імкнецца стварыць беларускую дзяржаву. Кубэ, можа, і ня быў нашым прыяцелем, але ён меў ідэі стварэньня буфэру паміж Нямеччынай і Расеяй. Гэта не падабалася Гімлеру. Мэта іхная была забраць Маскву і ні з кім не лічыцца. Славяне для іх, як у "Mein Kampf" пісалася, — гэта гной для іхнай культуры*.

Мэтай партыі БНП было абсадзіць кіраўнічыя пазыцыі нямецкіх уладаў і непасрэдна ўплываць на іх. Гэты ўплыў мерkavaлася зьдзяйсьніць з пазыцыяў дарадчыкаў. Партыя выдавала бюлетэнь антынямецкага і антыкамуністычнага зьместу.

Працяг на старонцы 11

** Пытаньне пра забойства Кубэ застаецца дыскусійным. Адначасова з вэрсіяй Юрыя Туронка й афіцыйнай канцэпцыяй акту помсты з боку менскага падполья й партызанаў існуе таксама вэрсія былога генэрала КГБ Седаплатава пра сплянаваную ў Маскве апэрацыю. Канчатковае рашэньне можна будзе зрабіць толькі пасьля адкрыцьця архіваў КГБ і атрыманьня доступу да некаторых заходніх архіўных збораў — А. Dz.*

# Да моманту высаджваньня дзьвярэй



***"Итак, стойте в свободе...": Восточная Европа. Из истории оппозиции и подполья. — Рязань: Российский независимый исторический и правозащитный журнал "Карта", 1997. — 76 с.***

***Малый конспиратор. — Пераклад з польскага выданьня 1983 г. (Варшава) — [самвыдат, ксэракапіяваньне, Менск (?), 1997 (?)].***

Хто прыўнес гэтую інтрыгу, калі за тры гады да канца тасячагодзьдзя ў Беларусі робяцца актуальнымі кнігі, якія сымбалізуюць сабою клясыку падпольля Сярэдняй Эўропы й Расеі? У Беларусі зьявіўся Кансьпіратар.

Пасьля абвяшчэньня 13 сьнежня 1981 году ў Польшчы ваеннага становішча перасталі выконвацца нават мінімальныя працэсуальныя нормы. Адначасова немалая колькасьць людзей падалася ў падпольле. Як вынік — была назапашаная такая колькасьць інфармацыі, якая ўжо падлягала сыстэматызацыі. У 1983 годзе ў Варшаве падпольна выйшла брашура пад назваю "Малы кансьпіратар" з парадамі як арганізоўваць падпольную працу, наладжваць сувязі паміж суполкамі, весьці запісы й тэлефонныя размовы, як паводзіць сябе пры выкліках у ГБ, пад час допыту, як весьці са сьледчым інфармацыйную гульню... Потым гэтая брашура неаднаразова, нават масава перавыдавалася ў польскім падпольлі, іншых сярэднеэўрапейскіх краінах, а таксама ў Маскве. І вось нарэшце расейскі пераклад гэтае кніжкі быў аддрукаваны ў Беларусі невядомымі інстытуцыямі. Аддрукаваны на газэтнай паперы, ня лепшым памнажальнікам — затое, трэба меркаваць, менавіта з-за якасьці, — немалым накладам.

Таксама ў Беларусь патрапіла партыя "Малога кансьпіратару" з Расеі. Разанскі праваабарончы й дасьледчы цэнтар "Карта" выдаў кнігу "Итак, стойте в свободе... Восточная Европа. Из истории оппозиции и подполья", куды апроч "Малога кансьпіратару" былі ўлучаныя ўласна расейскія матэрыялы — фрагмэнты з кнігі Ул.Альбрэхта "Як быць сьведкам", тэкст "Як бараніцца ад катаваньняў", падпісаны крыптонімамі І.К. і Д.С., урывак з кнігі Андрэя Блішунова "Як паводзіць сябе ў зоне канфлікту". Апошнія дзьве кнігі паўсталі з расейскіх рэаліяў 90-х гадоў, а першая была створаная яшчэ ў 70-х. У Разані рабілі ня толькі архіўнае выданьне, а кніжку практычных парадаў. Пасьля сканчэньня расейска-чачэнскай вайны "картаўцы" палічылі, што адна з асноўных тэрыторыяў, дзе можа быць карыснаю іхняя кніжка — Беларусь.

Галоўная ідэя, якою прасякнутыя гэтыя праваабарончыя публікацыі — нават у самых цяжкіх умовах (турма, арышты,ператрусы, сьледзтва, сачэньне, падпольле) чалавек можа й павінен бараніць свае правы, сваю свабоду. У груньце супраціву ляжыць той факт, што найбольш нелегальнаю зьяўляецца сама таталітарныя ці дыктатарская ўлада ды яе дзеяньні. Адначасова трэба дзейнічаць так, каб маўклівая большасьць атаясамляла сябе з супрацівам, але ня трэба разьлічваць на прыцягненьне яе да падпольнае працы, бо "цэлы народ можа супраціўляцца толькі ў патрыятычных кніжках".

За гады падпольля й апазыцыйных рухаў напрацаваны цэлы арсэнал сродкаў супрацьстаяньня рэжымам — ад мануальных, практычных да канцэптуальных. Ніколі ня варта адразу адчыняць дзьверы. Да моманту высаджваньня дзьвярэй заўсёды ёсьць крыху часу. Скарыстайце яго разумна! "Спаліце ўсе дакумэнты, запісы з тэлефонамі й адрасамі знаёмых, іншыя кампраматы". Трэба разумець — калі вырашана высадзіць дзьверы — гэта не выпадковы візыт, пра вашую дзейнасьць ужо нешта вядома.

Але найважнейшым зьяўляецца разуменьне таго, што таталітарызм — гэта сыстэма. Вось чаму яму трэба супрацьпастаўляць сыстэматызацыю. Тайная паліцыя не заўжды ўсемагутная й не заўжды ўсё ведае, але яна і ня банда тупіцаў з садысцкімі схільнасьцямі. Гэта адзін з найбольш старажытных інстытутаў у сьвеце. Сіла паліцыі — у адпрацаваных да аўтаматызму дзеяньнях ды велізарным бюджэце. Таксама варта ўлічваць пэўную затрымку дзеяньняў рэжыму. "Паліцыя — гэта не швайцарскі гадзіньнік, а камуністычная бюракратычная машына". Дыктатуру трэба перамагаць у сфэры інфармацыі й культуры: быць больш сучасным, вынаходзіць новыя спосабы супраціву, апярэджваць рэжым, ствараючы яму новыя палі бітваў.

Ранейшая беларуская сытуацыя не стварыла свайго Кансьпіратара. Таму цяпер такі посьпех мае імпартаваная прадукцыя. Шмат якія парады там яшчэ зусім актуальныя. Але ўжо пачалася адаптацыя да беларускіх умоваў ранейшых напрацовак — у самвыдатаўскім беларускім "Малым кансьпіратары", выдадзеным па-расейску, маюцца камэнтары паводле беларускага права, робяцца спасылкі на канкрэтныя артыкулы Крымінальнага й Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў. "Беларускі кансьпіратар", які паўстае, будзе ўжо Канспіратарам XXI стагодзьдзя. Гэта Джорджу Сорасу напачатку антыкамуністычных зьменаў у Сярэдняй Эўропе прыходзілася завозіць у Вугоршчыну партыі ксэраксаў для ўнівэрсытэтаў і бібліятэк, пашыраючы тым самым магчымасьці існаваньня вольнага слова. Цяпер жа ў Беларусі столькі памнажальна-капіявальнай тэхнікі, што прыйдзецца распрацоўваць цэлыя дзяржаўныя праграмы зь велізарнымі бюджэтамі, каб яе ўсю вынішчыць. Мадэмы, INTERNET, факсы, сатэлітныя антэны, відэатэхніка... — усяго гэтага былі пазбаўленыя папярэднія генэрацыі ня толькі беларускай апазыцыі. Новыя "палі бітваў" ужо ствараюцца. Беларусам застаецца выпрацаваць свае правілы паводзінаў у гэтай новай для ўсіх сытуацыі — у сытуацыі новага стагодзьдзя.

**Алег Дзярновіч**

# Віртуальная рэальнасьць Дорлінг Кіндэрсьлі



Калі б мне прыйшлося выбіраць для свайго дзіцяці кніжкі, зь якіх варта пазнаваць сусьвет, я б спыніўся на кніжках ангельскага выдавецтва "Дорлінг Кіндэрсьлі" (Dorling Kindersley). Чаму "спыніўся б"? Таму, што мае матэрыяльныя ўмовы не дазволяць гэтага, хоць расейскія перадрукі "Дорлінгаў" сустрэнуць вас у менскіх кнігарнях і шапіках. Але CD-ROM-ныя выданьні "DK" я ўсё ж імкнуся не прапускаць. Асноўныя прынцыпы кніжнага выдавецтва, заснаванага ў 1974 г. Пітэрам Кіндэрсьлі — нагляднасьць, эфэктыўнасьць падачы інфармацыі, прывабнасьць і зьмястоўнасьць, нарэшце свой адметны стыль, — цалкам перайшлі і ў электронны фармат "DK". Практычна ўсе кніжкі выдавецтва ўжо з пачатку былі ў пэўнай ступені "інтэрактыўнымі" і "гіпэртэкставымі", уключаючы чытача ў актыўны пазнавальны працэс і ствараючы лягічную сыстэму паступовага руху ў лябірынце ведаў. Разьлічаныя на дзяцей і сямейнае карыстаньне маляўнічыя даведнікі, слоўнікі, атлясы, энцыкляпэдыі "DK" папярэдзілі разьвіцьцё мультымэдыйных кніжак і цалкам натуральна перайшлі і ў гэтую форму існаваньня.

Пакуль зь некалькіх соцень кніжных выданьняў "Дорлінг Кіндэрсьлі" на CD-ROM пераведзена хіба менш за дваццаць. Але тыя, што ёсьць, даюць хіба не найвыдатнейшыя прыклады спалучэньня кніжнай традыцыі з самымі найноўшымі інфармацыйнымі тэхналёгіямі ў пазнавальных мэтах.

У Менску пакуль мне трапіліся восем (вядома, пірацкіх) выпускаў "DK-мультымэдыі". Сярод іх энцыкляпэдыі для вучнёўскага веку сэрыі "Eyewitness" ("Вачавідзец") —"Каты", "Птушкі", "Дыназаўры", "Прырода", "Сусьветная гісторыя"; для самых маленькіх — "Мой першы неверагодны дзівосны слоўнік" і "Мой першы дзівосны дасьледнік сьвету"; нарэшце, для зусім дарослых — "Элемэнтарны дапаможнік у сэксе" вядомай сваімі папулярнымі кніжкамі Эн Хупэр.



Можа найважнейшыя, на маю думку, менавіта дзіцячыя CD. Як прыклад, мая пяцігадовая дачка, дзякуючы ім, далучылася да актыўнага кантакту з кампутарам. "Мой першы слоўнік" (вядома, ангельскі), на першы погляд, пабудаваны традыцыйна. З альфабэту выбіраецца літара і, далей, словы, якія на гэтую літару пачынаюцца. Але кожнае слова можна праслухаць у выдатным вымаўленьні. Малюнкі, калі на іх націснуць, ажываюць і вырабляюць забаўныя штукі. Гараж адчыняе дзьверы, усярэдзіне заводзіцца самаход, запальваюцца фары. Парашутыст з роспачнымі крыкамі выкідваецца з самалёту, але пасьпяхова раскрываецца выратавальны купал. У тэатры ўздымаецца завеса, акторы граюць невялічкую сцэнку. Многія паняцьці аб'яднаныя ў адмысловыя групы паводле сэнсу — часткі цела, жывёла, расьліны і падобнае. Пры жаданьні можна згуляць у гульні накшталт "адгадай, як называецца", можна скапіяваць малюнак альбо надрукаваць яго. Пазнаньне сьвету мовы ператвараецца ў захапляльнае дзеяньне. Гульня, забава? Так, але ж менавіта гульня й ёсьць найбольш эфэктыўным сродкам адукацыі. Ня менш прывабна пабудаваны і "Мой першы дасьледнік сьвету". Гэта атляс, дзе ажываюць мапы, малюнкі, дзе можна зьдзейсьніць файнае падарожжа па кантынэнтах і краінах.

Для старэйшых дзяцей створаныя энцыкляпэдыі "Вачавідзец — Віртуальная рэальнасьць". Апошняе пакаленьне іх — "Каты", "Дыназаўры", "Птушкі" (ёсьць яшчэ "Акулы", але мне ня трапіліся) — пабудаванае як экскурсія ў віртуальным музэі, дзе ў трохвымернай прасторы можна хадзіць па залях і калідорах, у якіх разьвешаныя і расстаўленыя "экспанаты". Дакрануўшыся да іх, можна прымусіць рухацца тыраназаўра, паслухаць як вуркоча брытанскі кот, альбо раве бэнгальскі тыгр, параўнаць спосабы бачаньня прасторы чалавекам і рознымі птушкамі, праглядзець відэаролік паляваньня рысі, ці зазірнуць усярэдзіну жывога арганізму. Ад кожнага экспанату можна надоўга заглыбіцца ў гіпэртэкставую прастору.



Жывёлы ў міталёгіі, мастацтва і прырода, гісторыя прыручэньня, пароды — пра ўсё можна знайсьці калі не вычарпальныя, то дастатковыя зьвесткі. Апроч тэкстаў — тысячы малюнкаў, дзясяткі відэакліпаў, гукавых запісаў робяць віртуальную экскурсію амаль бясконцай, здаецца яшчэ крыху, і застанесься ў гэтым дзівосным сьвеце назаўсёды...

Можа, старая традыцыйная папяровая кніга з малюнкамі, якая не паглынае чытача, не зацягвае яго ў віртуальны вір больш бясьпечная і... добрая? Але, гутэнбэргава вынаходніцтва таксама не аднойчы лічылі за д'яблаву справу. Хіба і ў гэтым ёсьць пэўная рацыя. Усё ж, я аддаю перавагу сучасным мэдыям. Абараніцца ад небясьпекі ведаў можна толькі лепшымі ведамі і я купляю новую кнігу, альбо — стаўлю ў кампутар новы CD-ROM. І мару пра "Мой першы неверагодны, дзіўны і чароўны беларускі мультымэдыйны слоўнік".

**Вацлаў Арэшка**

# Пошукі свабоды зь ліхтаром



***ФОТАДАКУМЭНТ. Дэмакратычны маратон — Бялград 1996. Пад рэдакцыяй Драгалюба Жаркавіча. — Бялград, 1997.***

"Ніякае войска і ніякая паліцыя ня могуць перамагчы волю народа, які гатовы да негвалтоўнага супраціву". Пад такім дэвізам (гэта словы Гандзі) прайшлі восеньскія й зімовыя масавыя акцыі грамадзянскага пратэсту ў Сэрбіі, якія некалькі месяцаў трымалі ўвагу эўрапейскіх мас-мэдыяў, будзілі надзеі й спачуваньні, альбо раздражненьне й нянавісьць нават і вельмі далёка ад Балканаў. Пра гэтыя падзеі нямала пісалі і ў нашай вольнай прэсе, спрабавалі рабіць аналізы... Але не палітычныя вынікі — як цяпер бачым, даволі сьціплыя — і нават ня сам факт удзелу ў падобных падзеях дзясяткаў, а часам і сотняў тысячаў чалавек наводзяць на роздум, калі трымаеш у руках кніжку, якая была выпушчаная аб'яднанымі намаганьнямі тыднёвіка "Време" і газэты "Демократија", найбуйнейшых незалежных выданьняў Сэрбіі. "Фотадакумэнт" — альбом фотаздымкаў некалькіх югаслаўскіх рэпартэраў, практычна бяз тэксту, чорна-белых і ў колеры — прысьвечаны хутчэй самому спосабу барацьбы, які быў абраны для змаганьня з рэжымам Мілошавіча. Менавіта гэта робіць кнігу асабліва цікавай у нас, дзе як стратэгія, гэтак і тактыка рэзыстэнцыі выклікаюць бурлівыя публічныя і канфідэнцыйныя спрэчкі. Дарэчы, сама форма маніфэстацыйнага маратону была напярэдадні Бялграду увасобленая якраз у Менску пад час так званага рэфэрэндуму. Восеньска-зімовы наступ на сярэдне-ўсходне-эўрапейскі посткамунізм (Бялградзкія падзеі, выбары ў Румыніі, у Баўгарыі) пачаўся дэмакратычнай восеньню ў Беларусі. Але там пачвары мінулага мусілі, хаця б фармальна, адступіць, а ў нас тыднёвае стаяньне на плошчы скончылася антыдэмакратычным дзяржаўным пераваротам. Досвед бялградзкага маратону быў скарыстаны ўжо менскай Вясною-97, але плёнам яе йзноў ня стала палітычнае адступленьне рэжыму, ня кажучы ўжо пра яго падзеньне.

Але вернемся непасрэдна да "Фотадакумэнта". Сваёй задачаю складальнікі альбому паставілі дэмістыфікацыю, разбурэньне афіцыйнай ідэалёгіі і прапаганды. У небясьпечнай для сябе сытуацыі бялградзкі рэжым (і гэта нам знаёма) паставіў на палярызацыю грамадзтва, на распальваньне ўзаемнай нянавісьці, добра падрыхтаванай ужо доўгім панаваньнем камуністаў, гістарычнымі ўмовамі, шматгадовым балканскім канфліктам ды той ксэнафобіяй, што моцна падагравалася міжнароднымі санкцыямі супраць Югаславіі. Сутыкнуць натоўп, кінуць краіну ў хаос і навесьці потым жаданы ўсімі парадак, магчыма, на гэта спадзяваўся Мілошавіч. Але дэмакратычная апазыцыя зрабіла ўсё, каб не дапусьціць правакацыі й ёй удалася вытрымаць абсалютна мірны характар пратэсту. Сутнасьцю яго стаў сьмех, карнавал — выстаўленьне голага караля. "Усё, што тут ёсьць — гэта, па вялікім рахунку, зьдзек з уладаў. Бязьмежнае, але міралюбнае ганьбаваньне, насьмешка над уяўнымі аўтарытэтамі паказвае грамадзкі пратэст ізноў абуджанай дэмакратычнай Сэрбіі", — піша ў прадмове да фотаальбому Драгалюб Жаркавіч.

Карнавальны пэрформанс вызначыў форму пратэсту. Маскі, грым, забаўныя строі, сьвісткі, бубны й каструлі сталі "зброяй дэмакратыі". Ледзь ня кожны дзень — новы спэктакаль: сёньня ўсе зацiскаюць насы — "ад Мілошавіча дрэнна пахне", заўтра мыюць вуліцу — у адказ на спробу разагнаць шэсьце — "змываюць кроў". Рэдакцыю афіцыёзнай газэты "Палітыка" закідваюць яйкамі — яйкам не заб'еш, але... Конкурсы плякатаў, лёзунгаў: "Я дзіця фашызоідных бацькоў, якія мной маніпулююць" — трымае немаўля ў калясцы; "шукаю свабоду" — стары зь ліхтаром; "Прыйдзе зіма, зробім сьнегавіка. Будзе й Сэрбія вольнай, як Чэхія (па-сэрбску гэта гучыць у рыфму). Сьнежная рэвалюцыя". Тысячы бялградцаў са значкамі, дзе адно слова: "Шетач" — той, хто шпацыруе. Сапраўды, пару гадзінаў шпацыру ўвечары пасьля працы па цэнтральных вуліцах у прыемнай кампаніі сталі для сталічнага студэнцтва й інтэлігэнцыі амаль традыцыяй.

Непасрэднае супрацьстаяньне апарату ўлады на вуліцы дэмакраты выйгралі. Яны паказалі ўзор стойкасьці і салідарнасьці, не паддаліся нянавісьці й страху, прадэманстравалі сваю маральную й культурную перавагу над рэжымам. Але й рэжым, як гэта ні парадаксальна, прадэманставаў сваю пэўную стрыманасьць, ледзь не "эўрапейскасьць". Былі правакацыі, нават ахвяра. Былі кардоны з дубінкамі, сутычкі, некалькі зьбітых і затрыманых. Але не было соцень арыштаваных, крывавага паляваньня на людзей, мільённых штрафаў. Сэрбы з аднаго боку засталіся сэрбамі для другога боку. Барацьба за ўладу не адбывалася з мэтаю ліквідаваць дзяржаву. Праваслаўная царква засталася сэрбскай царквой і нават падтрымала дэмакратычныя сілы. Грамадзтва не апанавалі страх і нянавісьць. (Гэтага не было нават і ў самыя змрочныя часіны сацыялістычнай Югаславіі.) Нягледзячы на гарачую балканскую кроў і нават на пісталеты ў руках, уся сытуацыя засталася больш-менш у межах цывілізацыі. І цывілізаваныя мэтады спрацавалі.

Прывабны негвалтоўны шлях "паводле Гандзі" аказаўся неэфэктыўным ва ўмовах, калі воля народа збольшага падаўленая альбо маніпуляваная, калі сродкі яе выхаваньня й выяўленьня амаль цалкам манапалізаваныя узурпатарам, а застрашваньне і тэрор — асноўныя мэтады ажыцьцяўленьня ўлады. А тым больш калі на гэтую волю прэтэндуюць палярна супрацьлеглыя сілы. У гэтай сытуацыі не аморфная большасьць будзе канчаткова вырашаць свой лёс, а воля дынамічнай, здольнай на чын эліты, роля якой — у экстрэмальнай сытуацыі браць на сябе адказнасьць за лёс нацыі. Пошукі свабоды зь ліхтаром, здаецца, ужо скончаныя...

А ў Югаславіі цяпер чакаюць новых падзеяў. Выбары могуць замацаваць (альбо не) палітычныя дасягеньні апазыцыі. А ў блізкай будучыні свой лёс у Югаслаўскай Фэдэрацыі зьбіраецца вырашыць і "брацкая Чарнагорыя", якой, пэўна, ужо надакучыла месца апошняга "малодшага брата" вялікай Сэрбіі.

**Вацлаў Арэшка**





# Сем капеек за кулю

Працяг са старонкі 5

Калі немцы атрымалі паразу пад Сталінградам, тады камісар Наваградку раптам выклікаў мяне да сябе. Я ўжо падумаў, што мяне арыштуюць. Мая будучая жонка дапамагала мне хаваць бюлетэні БНП (апошні бюлетэнь я выдаваў у Наваградку). Я папярэдзіў яе, што калі не вярнуся — значыць, арыштавалі.

Я быў вельмі зьдзіўлены, калі жонка камісара спаткала мяне вельмі ветліва, пачаставала чаркай. Прыйшоў і ён з такім паднятым настроем. І кажа, што хоча ў мяне прасіць прабачэньня, што ён не зразумеў ідэалаў, намаганьняў і мэтаў беларусаў, якія мы падавалі. Спытаў, ці хачу я яшчэ быць на іх баку і ці згаджуся сфармаваць вайсковую адзінку, напрыклад, эскадрон. Я кажу: вы шмат робіце непрыемнага. Але ў вёсках тады шмат забівалі людзей, і я вырашыў дапамагчы вяскоўцам. Я згадзіўся сфармаваць вайсковую адзінку пры ўмове, што гэта будзе эскадрон, незалежны ад мясцовай жандармэрыі й паліцыі. Пайшоў да настаўнікаў, якія мяне падтрымалі. Яны сказалі: "У нас цяпер будзе хоць нешта, што абароніць нас і, хто знае, можа, дапаможа захаваць людзей на вёсках".

Абвінавачаньні камуністаў, што мы расстрэльвалі людзей у 1942-м, у ліпені 1943 году беспадстаўныя, бо тады нас, эскадрону, яшчэ не было. Усё пачалося тады, калі нямецкі камісар згадзіўся, каб нашае фармаваньне было чыста беларускай нацыянальнай адзінкай. Я запэўніў, што змагу сфармаваць эскадрон за 2 тыдні, калі толькі будуць зброя і коні.

У канцы кастрычніка — пачатку лістапада 1943 году эскадрон быў ужо гатовы. З моманту сфармаваньня эскадрону немцы перасталі расстрэльваць мясцовае насельніцтва. Жыдоў больш не стралялі. І сялянства адчула, што ёсьць нейкая абарона. Мы тады вырашылі паказаць сваю прысутнасьць у раёнах, якія былі цалкам ахопленыя партызанамі. І ў сакавіку мы выйшлі ў такі паход па маршруце Наваградак — Сьвіцязь — Гарадзішча — Мір — Турэц — Карэлічы. Прайшлі праз тэрыторыю Міцкі-партызана, які меў каля 2 тысячаў байцоў. Да гэтага часу ніякі канвой там не праходзіў.

Мы прыйшлі ў батальён БКА ў Гарадзішчы, падняслі іхнага духу. Нас было 150 коньнікаў. Прыйшлі ў Мір, сустрэліся зь мясцовымі беларусамі. Прыйшлі ў Турэц, там мне паказалі, дзе я нарадзіўся, дзе мой бацька працаваў. Паехалі ў Карэлічы. Па дарозе нідзе не спаткалі партызанаў. Вырашылі пайсьці ў Забалоцьце, там быў іхны галоўны штаб. На нашае няшчасьце, мы хацелі ўзяць з сабой мясцовую паліцыю, якая была ня польскай, а беларускай, і сярод іх быў інфарматар. Таму які б мы плян ні зрабілі, партызаны ўсё ўжо зналі. Мы прыйшлі ў Забалоцьце — нікога, пустая вёска. Раптам мы ўбачылі партызан. Іх было шмат. Яны імкнуліся адрэзаць нас ад Карэлічаў. Мы занялі пазыцыю на ўзгорку. Бой трываў 3-4 гадзіны. Мы змаглі арганізаваць адступленьне й нам удалося трапіць у Карэлічы. Мы страцілі 6 нашых сяброў. У Наваградак прыйшла зьвестка, што батальён зьнішчаны. А 25 сакавіка мы вярнуліся дадому. Для жыхароў горада і саміх немцаў гэта было нечаканасьцю. Людзі кінуліся нас сустракаць.

Гэтым часам Цэнтральная Рада пад кіраўніцтвам Астроўскага аб'явіла мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону. І мне прапанавалі арганізаваць батальён. Лепшыя кадры з майго эскадрону былі пераведзеныя ў батальён. Вайсковая адзінка павялічылася, але адчувалася, што яна аслабла. Бо эскадрон быў як кулак, там былі ўсе сьведамыя хлопцы. А ў батальён пайшлі простыя хлопцы зь вёсак. Што цягнула туды беларусаў? Ведалі ж, што вайна сканчаецца... Ня знаю. Гісторыя мусіць разабрацца.

Пасьля мы плянавалі быць аховай ІІ Беларускага кангрэсу, які праходзіў 27-28 чэрвеня.

**В.Н.: Вернемся да моманту, калі Вы хацелі дамовіцца з партызанскімі камандзірамі накошт сумесных дзеяньняў.**

**Б.Р.:** Калі зьявіўся наш эскадрон, было вядома, што многія мае знаёмыя і сябры пайшлі ў партызаны. Адзін з нашай школы, якога я хацеў мець у сваім эскадроне, прыйшоў да мяне і кажа: "Мая сям'я ў вёсцы, мусіць мне прыйдзецца ісьці ў партызаны". Я кажу: "Добра, але будзь такім партызанам, як мы жаўнеры". Ён быў патрыёт беларускі й ён пайшоў у партызаны. Тады мы скантактаваліся з партызанамі.

У мяне на кватэры была наладжана сустрэча. Мае жаўнеры мелі пароль і спаткалі партызанаў за горадам. Я ім гарантаваў бясьпеку. Там, сярод партызанаў былі таксама людзі зь беларускай гімназіі. Нашая гутарка была аб тым, што мы ня служым немцам, а служым беларускаму народу. А каму служыце вы? "А ў нас бяда, камандзіры нашыя не беларусы, яны прысланыя з Масквы. І калі мы хоць нейк ім пакажам, што мы ня цалкам зь імі, то жыцьцё нашае будзе ў небясьпецы, нас могуць расстраляць". Мы два разы сустракаліся, і я бачыў, што ў іх было жаданьне кантактаваць з намі. Яны зразумелі нашыя пазыцыі, а мы іхныя. Адзінае прасілі іх не забіваць старостаў і настаўнікаў. Гэта ж не змаганьне. Калі вы, кажу, забілі пяць немцаў за цэлыя тры гады, а колькі беларусаў загінула!..

Быў яшчэ адзін атрад, якім камандаваў Віктар — былы ваеннапалонны, лейтэнант Чырвонай арміі. Ён пасяліўся ў хаце маці маёй будучай жонкі ў Гутары. Мы абое кахалі гэтую дзяўчыну. Я ведаў, што ён з Віцебшчыны, віцебскі беларус. Я хацеў зь ім дамовіцца. Быў такі юнацкі плян: калі б ён згадзіўся злучыць свой атрад з маім эскадронам, мы б перастралялі немцаў і абвясьцілі незалежную Рэспубліку Беларусь са сталіцай у Наваградку. Сёньняшнім розумам старэйшага чалавека я разумею, што мусіць такога тады я б не зрабіў. Я пайшоў у Наваградак да Орсы. Той кажа: "Барыс, ты пашкадуй нас. Вы яшчэ можаце хоць у лес уцячы. Што ж рабіць нам пад немцамі? Не атрымаецца".

На перамовы зь Віктарам я паслаў маю нарачоную Людмілу. Яе матка прыехала ў Наваградак, прывяла ёй сані. І 7 кілямэтраў ад Наваградку ён спаткаў яе з конным атрадам. Я зрабіў адну памылку — магла б шкоды нарабіць — зь Людмілай перасылаў ліст. Віктар сказаў: "Я яму паведамлю пра сваё рашэньне". І потым ён раптам прапаў. Я пра яго пасьля нічога ня ведаў і ня чуў. Ці ён пабаяўся? Я яго не абвінавачваю, бо сытуацыя была ня лёгкая. Зь сёньняшняга пункту гледжаньня гэты плян быў нерэальным, але тады мне здавалася, што гэтае магчыма зьдзейсьніць. Мой настаўнік Орса сказаў: "Калі б гэта дайшло да міжнароднага ведама, вам бы была слава. Але аб гэтым ніхто ня будзе ведаць".

Напрыканцы вайны ў Менску павінен быў адбыцца ІІ Беларускі кангрэс. Мы павінны былі ісьці ў Докшыцы, адтуль у Менск. У Родзькі быў плян пад час кангрэсу зьдзейсьніць путч. Вынікам гэтага путчу павінна быць абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Падобнае, што я хацеў у Наваградку зрабіць. Ня ведаю, магчыма, немцы дазналіся пра гэты плян, бо нам ня выдалі транспарту, а за 3 дні дайсьці ў Менск ніяк не было магчымасьці.

Калі пачаў падыходзіць пад Менск фронт, я вырашыў эскадрон ня весьці праз Вільню на захад, а давесьці дадому — каб яны там на месцы маглі вырашыць, што зрабіць, бо сем'і засталіся там. У Наваградку сабраў эскадрон і сказаў: "Што нас чакае ў Нямеччыне я ня ведаю, што нас чакае тут — добра вядома. Нас тут усіх вынішчаць. Хто хоча падацца не захад — пойдзем. Хто хоча застацца — супраць маёй парады. Але я не магу вам загадваць". Некаторыя засталіся. 70-80 чалавек з эскадрону пайшлі са мною. Выяжджалі арганізавана, праз Ліду. Эскадрон перастаў існаваць. Родзька спаткаў мяне ў Горадні і прапанаваў сфармаваць дэсантны батальён. Я яму адказаў, што дэсантны батальён было б добра зрабіць, калі немцаў паб'юць амэрыканцы, потым амэрыканцы пойдуць у атаку. Ён пагадзіўся са мною, але ў душы верыў, што можна арганізаваць партызанку. Тут ён крышку падвёў. Я ня маю сумневу ў яго патрыятызьме. Родзька — гэта быў наш Каліноўскі, ён і загінуў як Каліноўскі. Але ён ня знаў Саветаў, ён думаў, што зможа там працаваць у падпольлі.

**В.Н.: Значыцца, ён пайшоў па савецкую тэрыторыю. Дзе ж ён высадзіўся?**

**Б.Р.:** У раёне Налібокаў. Пасьля перайшоў у раён Беластоку, там змагаўся з бальшавікамі. Там яго і злавілі. Луцкевіч расказваў майму калегу ў Вільні, як суд быў. Дзе пахаваны — невядома. Ягоную магілу, як і магілу Каліноўскага, не знайшлі дасёньня.

ІНТЭРВІЮ БРАЎ ВІКТАР НАГІБЯДА.

*Антвэрпэн, 10 траўня 1996 году.*

*Праца выкананая ў рамках праекту "Адна зямля — Усходняя Эўропа". © Архіў Найноўшае гісторыі.*

НОВЫ ПРАЕКТ!

## АЛЯКСАНДАР ЛУКАШУК
# ФІЛІСТОВІЧ. ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА



9 верасьня 1951 году пад Маладэчнам прызямліўся парашутыст... Яго адзінай любоўю была Беларусь. Яго адзінай стыхіяй было змаганьне за яе волю і незалежнасьць. Сябры параўноўвалі Янку Філістовіча з Кастусём Каліноўскім, суайчыньнікі ніколі ня чулі ягонага імя... Цэлы год, хаваючыся ад органаў МГБ па вёсках і лясах, Філістовіч наладжваў беларускае нацыянальнае падпольле, стварыў сваю вайсковую групу, выдаваў у лесе газэту "Жыве Беларусь".

Новую кнігу, якая рыхтуецца ў рамках нашаніўскага Архіву Найноўшай Гісторыі, складаюць дакумэнтальныя сьведчаньні. Словы Янкі Філістовіча ўзятыя зь лістоў, яго ўласных публікацыяў, успамінаў сяброў, а таксама пратаколаў допыту. Кніга пабудаваная ў форме п'есы — закрытага суда над патрыётам, але ўсе словы гэтае п'есы ўзятыя з рэальнасьці.

5 верасьня 1952 году органы МГБ правялі апэрацыю супраць групы Філістовіча. Два ўдзельнікі групы былі забітыя. Сам Філістовіч уцёк і быў арыштаваны толькі праз пяць дзён недалёка ад Горадні. Разам зь ім былі арыштаваныя 15 яго саўдзельнікаў. Вайсковы трыбунал прысудзіў Філістовіча да сьмяротнага пакараньня.

Аўтар кнігі журналіст Аляксандар Лукашук — адзін з заснавальнікаў "Мартыралёгу Беларусі", член Камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларусі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў; цяпер супрацоўнік Радыё Свабода.

Рэдакцыя мяркуе выдаць новую кнігу не пазьней, чым праз месяц. Нагадваем нашым чытачам, што яны могуць спрычыніцца да гэтае справы і атрымаць кнігу значна таньней за тых, хто набудзе яе пасьля выданьня. Сёньня новая кніга разам зь перасылкай абыдзецца ахвотным у 26 тыс. рублёў.

Каб замовіць кнігу, трэба пералічыць суму пералічыць на наступны рахунак:

*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант", філія АКБ "Поіск", г. Менск, код 987.*

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" пазначыць: "Філістовіч" і Ваш дакладны паштовы адрас і тэлефон.

ПАДПІСКА

# ГАРТ. САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

*Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша Ніва, 1997. — 352 с. ISBN 985-6374-01-4*



Саюз Беларускіх Патрыётаў — гэта падпольная маладзёжная арганізацыя, якая ўзьнікла ў 1945 годзе сярод студэнтаў пэдагагічных вучэльняў Глыбокага і Паставаў. Спачатку гэта былі суполкі. Яны склаліся стыхійна — як рэакцыя навучэнцаў на пасьляваенную русіфікацыю асьветных установаў Беларусі. 8 лютага 1947 году СБП быў разгромлены бальшавіцкімі карнымі органамі. Большасьць атрымала 10 гадоў пазбаўленьня волі...

Кніга ўспамінаў "Гарт", акрамя мэмуараў, уключае ў сябе прадмову ўкладальніка Германа Кірылава, індэкс асобаў і прадметна-геаграфічны паказальнік, больш за 60 дакумэнтальных фотаздымкаў. Кніга выйшла ў рамках праекту "Нашай Нівы" —Архіву Найноўшай Гісторыі.

Выдавецтва "Наша Ніва" праводзіла папярэднюю падпіску на "Гарт". Тады кошт падпіскі складаў 37 тысячаў рублёў. Тыя, хто падпісаўся загадзя, сваёй ініцыятываю й сваімі грашыма паспрыялі самому выхаду кнігі.

Цяпер падпіска на кнігу праводзіцца ў адпаведнасьці зь яе сабекоштам — 58 тысячаў рублёў плюс 8 тысячаў на паштовыя выдаткі.

Каб замовіць кнігу, трэба агульную суму ў 66 тысячаў рублёў пералічыць на наступны рахунак:

*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант", філія АКБ "Поіск", г. Менск, код 987.*

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" пазначыць: "падпіска — СБП" і Ваш дакладны паштовы адрас і тэлефон.

## ПОШТА

Вельмі Паважаныя Спадары "Нашай Нівы"

У газэце "Свабода" ў №48 8 траўня 1997 г. надрукаваная "Рэкляма", у якой, паміж іншым, сказана: "... Выдавецтва "Наша Ніва" падрыхтавала да друку кнігу "Гарт" — успаміны ўдзельнікаў Саюзу Беларускіх Патрыётаў".

Асабіста я вельмі зацікаўлены, каб гэтую кнігу прыдбаць, бо ўдзельнікамі ў гэтай патрыятычнай арганізацыі былі мае колішнія вучні. Перад ІІ сусьветнай вайной я працаваў настаўнікам у пачатковай школе (I-IV клясы) у вёсцы Барсукі Шаркоўшчынскага раёну. Пасьля вайны былыя мае чатыры вучаніцы паступілі ў пэдагагічную вучэльню ў Глыбокім. Былыя мае вучаніцы: Тамара Барсук (за мужам Лагун), Людміла Краснадубская, дзьве сястры Ларыса і Алена Барсук, — усе належалі да "Саюзу" і ўсіх маладзенькіх наіўных патрыётак загналі ў маскоўскія канцлягеры на Сібіры.

Хачу прасіць "Нашу Ніву", каб прыслалі гэтую кнігу на мой адрас, а таксама на адрас дзьвюх былых маіх вучаніц, зь якімі я маю пісьмовую сувязь. Усе адрасы пададзеныя ніжэй.

Наперад хачу падзякаваць за клопаты.

З пашанай

ВІТАЛЬ КАЖАН

*Пэнінгтон, ЗША.*

# Песьня пра Беларусьніка

*Па-над шостай часткай сушы хтосьці зноў хаўрус зьбірае.*
*Паміж Менскам і Масквою разадраны Беларусьнік, быццам чорная маланка.*
*То ён Гітлера ўхваліць, то Іосіфа згадае, ён крычыць, а людзі чуюць,*
*быццам Ленін на трыбуне. У гэтым крыку — процьма дуры, аніводнай слушнай думкі,*
*але так пераканаўча, што і сэнсу непатрэбна. Людцы стогнуць перад дурнем, стогнуць,*
*але разумеюць, што калі дурны, то сьмешна не сьмяяцца над вусатым.*
*І сусед таксама стогне, ім, суседзям, дзіўна бачыць, што краіну можна бэсьціць,*
*а народ усё даруе. Пан на Захадзе сьпяшае, каб хутчэй схавацца ў НАТА...*
*Толькі нашая пачвара сьмела гойсае па рэбрах у цярплівага народа.*
*Усё ніжэй сівыя хмары апускаюцца над сьветам, разумнейшыя народы ўцякаюць*
*ад Расеі. "Град" грукоча. На руінах церпяць людзі, не здаюцца. І таджык ужо шкадуе,*
*што дазволіў "міратворцам" бараніць "мяжу Расеі", за сваю баіцца скуру,*
*бо ён бачыць, як з Чачнёю абыходзяцца вайскоўцы.*
*Беларусьнік усіх гвалтуе, быццам чорная маланка, ён дубінкамі "спэцназу" Апазыцыю*
*зьбівае. Вось ён грукае ў вароты да Крамля... І патрыярха ўзасос расцалаваў ён.*
*"Можа, нешта зноў наблытаў?!" Ў гнязьдзе "брата" (хітры злыдзень!)*
*ён даўно заўважыў стому, і ўпэўнены, што хутка ўладкуецца на троне.Недзе вые... "Град"*
*грукоча... Сінім полымем палаюць незалежныя газэты. І цячэ кісель салодкі*
*з паўзадушаных экранаў, быццам сьлізкія зьмяюкі распаўзаюцца па хатах аскаплёныя*
*навіны.*
*— Нешта! Хутка будзе нешта! — гэта сьмелы Беларусьнік, як у багну,*
*між маланак, цягне свой народ ў няволю; ды крычыць прарок наш бедны:*
*— Хай мацнейшым будзе нешта!*

*II*

*Над прыгожаю краінай, як крумкач крылом аблезлым, грозна вусамі махае нехта лысы.*
*Быццам у небе ён лунае і глядзіць буркатым вокам, дзе там бел-чырвона-белы сьцяг*
*плыве над людам вольна, і амону насылае, бо занудзіліся хлопцы,*
*папрацуюць хай дубцамі.*
*Сам сабе ён спадабаўся, "шчэ калі ў першай клясе па пісьме схапіў трояк",*
*бо — рускай мове навучыўся. А калі каня забралі, са двара суседа хлопцы,*
*ён яшчэ тады бажыўся: калі вырасьце — пакажа. А цяпер усе глядзіце!*
*Гэта "чэсны" Беларусьнік! Як залезе ў тэлевізар, дык вярзе лухту такую,*
*што ад жаху вушы вянуць. Як няўдзячны шчэнь шалёны, ён ашчэрыўся на мову*
*і кусае ён за цыцку маці, што яго люляла. Калі б ведала матуля, што пачвару нарадзіла*
*і што стане той сыночак бацькам саманазывацца, дык яшчэ б у першай клясе*
*с... да крыві надрала, каб ня лез куды ня трэба з той дурнотай і хаўрусам.*
*І казах туды ня лезе, галаву не падстаўляе пад прамень крамлёўскай зоркі:*
*галаву сваю шкадуе.*
*Нават кыргыз не ўяўляе, як пражыць з Масквой ў хаўрусе. Толькі наш цяльпук упёрся,*
*як баран ў вароты б'ецца. Як парсюк у плот залезе і вішчыць*
*ён аб пагрозе. Нейкім НАТАм нас пужае, ажно сам у тое верыць.*
*А калі ён у гуморы, то народу абяцае, над народам тым сьмяецца. Бо народ забіты,*
*цёмны, любіць скварку "на халяву"; а да скваркі і гарэлку абяцае Беларусьнік.*
*Можа, лётае ў марах над Савецкай Беларусьсю? Ён забыў, што Якубовіч*
*там даўным-даўно рэдактар.*
*Але чуе Беларусьнік, што народ ужо сьмяецца, пазбаўляецца ад жаху*
*перад чорнымі вусамі.*
*Нешта! Хутка будзе нешта!*
*Закіпіць народу мора, як паводка на Палесьсі, і тады ты хоць у вырай адлятай,*
*бо стане цесна, і ахова не ўратуе.*
*Хай хутчэй надыдзе Нешта!*

**Вадзянік Няміскі-Горкі**



У гэтым вялікім кабінэце былі дзьве вялікія рэчы: пагоны і галава генэрал-лейтэнанта ФСБ Далмата Пятрова, які сядзеў ва ўтульным скураным крэсьле і гаварыў: стрымана, ёмка і насычана. Генэрал быў невялікага росту, нядаўна яму дабавілі зорку і ён ператварыўся ў генэрал-лейтэнанта, пасьля чаго неяк усох, здрабнеў, перарабіўся з каржакаватага здаравяка ў мізэрнага сухенькага дзядка ў форме зь непамерна вялікімі пагонамі. Магчыма яго падсьвядомых жыцьцёвых сілаў не хапала на чын генэрал-лейтэнанта. Засталася вялікая галава, здольная ўспрымаць інфармацыю, перапрацоўваць яе і рабіць высновы, выключная памяць, працаздольнасьць і дагматычная вера ў ідэалы расейскай імпэрыі, што дазволіла яму зрабіцца адзіным уладальнікам вялікага кабінэта і ўтульнага крэсла.

Адсюль, з гэтага скуранога, цёплага крэсла генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў распаўсюджваў пляны і энэргію барацьбы з ворагамі імпэрыі.

Сёньня ён сьвідраваў халоднымі, нават злоснымі вачыма палкоўніка ФСБ Фарыда Іванова, які сядзеў насупраць.

— Не давай ім падняцца, адчуць смак перамогі. Аніякага посьпеху яны не павінны дасягаць самастойна. Посьпех у іх сьвядомасьці павінен быць зьвязаны толькі зь дзейнасьцю Расеі. Таму ўсё таленавітае, здольнае, ініцыятыўнае, нацыянальнае бязьлітасна затаптывай у першую і другую чаргу.

На кіраўнічыя пасады ў культуры, спорце, тэлебачаньні вылучай ці мясцовых дагматаў, няздараў, тупіц, ці расейскіх патрыётаў. Тамтэйшыя прыдуркі добра заціраюць усе мясцовыя таленты і здольнасьці. Акрамя таго, на іх фоне расейцы будуць выглядаць выключна геніяльнымі работнікамі.

Генэрал Пятроў жорстка зірнуў на палкоўніка Іванова, быццам западозрыў у ім непатрэбную для агента ўплыву мяккасьць і жаласьлівасьць.

— Мы ледзь не празявалі Беларусь. У апошні момант пасьпелі пхнуць на кіраўнічае месца свайго чалавека. Але сытуацыя складаная, няпростая. Там побач — Эўропа. Шмат хто, дыхнуўшы кісларод у Варшаве, Празе ды Парыжы, пачаў разумець сэнс жыцьця. Таму аніякай альтэрнатывы, аніякай Эўропы. Таленавітыя і здольныя павінны назаўсёды зразумець, што могуць нечага дасягнуць, зрабіць кар'еру толькі праз Маскву, у Маскве, дзякуючы Маскве, падтрымліваючы Маскву.

Генэрал прамаўчаў, адпіў глыток са шклянкі і працягваў:

— Клясычны агент уплыву павінен валодаць мовай, гісторыяй тэрыторыі, якую трэба падпарадкаваць. У нашым выпадку ніякай мовы, ніякай гісторыі. Іх гісторыя пачалася ў 17-м годзе, датуль яны ня мелі гісторыі.

Генэрал Пятроў нешта ўспомніў, спахмурнеў і некалькі другіх хвілінаў разглядаў цьвёрды, валявы твар 37-гадовага палкоўніка Іванова.

— Нейкую ілюзію ім ствары, пакінь газэтку на іхнай мове. Але ўсіх здольных журналістаў перакупі ў расейскамоўныя выданьні. Нязломных — бязьлітасна ламай. Галоўнае задушыць веру ў сябе. Ня даць ім аніякага посьпеху. Калі хто нечага і дасягне, — ані слова, маўчаць, абмежаваць фінансава. Ніякіх перамог. Ніякага сымбалю для аб'яднаньня.

На разьвітаньне генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў памякчэў, паводле расейскага звычаю набулькаў палкоўніку Фарыду Іванову шклянку добрага армянскага каньяку за ўдалую дзейнасьць у Заходняй правінцыі імпэрыі.

— Дзейнічай, палкоўнік. Гэты марыянэтка доўга не пратрымаецца, трэба падшукаць новую фігуру на пост губэрнатара. Стварыць загадзя імідж. Працы шмат.

— А гэтага куды? — запытаў палкоўнік.

— Гэты не прападзе, спрытны прайдзісьвет. Наклаў сабе ў швайцарскія ды аўстрыйскія банкі не адзін мільён. —

Генэрал адпіў глыток, — патрымаем на пасадзе віцэ-прэм'ера, а потым піхнем расейскім паслом у Віетнам.

..........

У Менску нібы ўсё на сьвеце перамяшалася. Лета — быццам сумесь нязвыклай цёплай зімы і халоднай вясны. Было ціха, хранічна дыскамфортна, ураджай рос кепска, будучыня абяцала быць галоднай. Пачуцьцё чаканьня ўладарыла ў грамадзтве. Постсавецкі народ засынаў, праваліваўся ў стан анабіёзу.

У той дзень на менскім стадыёне "Дынама" сабралася ўсяго некалькі тысячаў заўзятараў. Пасьля першага тайму адборачнай гульні чэмпіянату сьвету зборная Расеі перамагала зборную Беларусі зь лікам 2:0. Заўзятары ў перапынку курылі цыгарэты, пілі піва, лускалі семкі, глядзелі невідушчымі вачыма перад сабою. Надзея на лепшае жыцьцё памірала доўга і пакутліва. Сёньняшняя параза ставіла ганебную кропку ў канцы дзейства, якое зьнішчала гонар, сумленьне і свабоду гэтых людзей. Іх, хто прысутнічаў на стадыёне, прымусілі згадзіцца з тым, што яны — натоўп, ад якога не залежыць нічога, нават вынік футбольнага матча.

Заўзятары ў Кіеве і Львове, Палтаве і Віньніцы, Чаркасах і Запарожжы, па ўсёй вольнай Украіне, назіраючы ў тэлевізіі гэты ганебны матч, лаяліся па-мацернаму, абзываючы сваіх братоў сьвінаводамі і бульбаводамі. Зборная Ўкраіны пры перамозе расейцаў займала другое месца ў турніры і не трапляла ў фінал футбольнага першынства сьвету.

Вітаўт спазьніўся на першы тайм і прыйшоў на цэнтральную трыбуну, змрочна балянсуючы на мяжы чорнай злобы і адчаю. Ён заняў сваё месца, паглядзеў на таблё, на маладых хлопцаў, што сядзелі побач. Міліцыянты у бронекамізэлька, з гумовымі палкамі напагатове стаялі ў праходах, пільна ўзіраючыся ў шэрагі людзей, вышукваючы бел-чырвона-белыя сьцягі, каб зараз арыштаваць і сьцяг, і сьцяганосца. Пануючы рэжым ажыцьцяўляў пляны імпэрскай Расеі, душыў праявы этнічнай сьвядомасьці народа нават у спорце.

— Чаго так сумна? — Вітаўт зірнуў на маладых.

— Прайграем, — юнак побач пацягнуў з бляшанкі піва і невыразна паглядзеў на Вітаўта. У сініх вачах хлопца ўжо зьзяла абыякавасьць, як спроба захаваньня душы ад адчаю.

— Вынік запляніваны ў Маскве, што тут незразумелага? Яны ж ходзяць па полі, аніякай барацьбы, — павярнуўся да Вітаўта ладна зьбіты малады мужчына ў штармоўцы, у вачах яго стаяла дзікая злосьць і роспач.

— Гэтая гульня — яшчэ адно пацьверджаньне паслухмянасьці беларусаў, нашай любові да "вялікага брацкага расейскага народа". За гэта мы атрымаем газ, электраэнэргію, сыравіну... яшчэ нешта..., — апошнія словы мужчына вымавіў зь непрыхаваным раздражненьнем.

— А калі перайначыць гэты вынік? Парушыць пляны маскоўскіх стратэгаў? Зьмяніць ходу падзеяў? Га? — разважыў у голас Вітаўт.

— Думка цікавая, але як? — пахмурна адказаў мужчына сьпераду.

— Можа здымем штаны, абуем буцы, ды на поле? Га? — усьміхнуўся хлопец зьлева.

Вітаўт доўга маўчаў. Яны ўсе былі аб'яднаныя жаданьнем свабоды, пераможнасьці Радзімы. Ва ўяўленьні Вітаўта паўсталі героі мінуўшчыны.

— Мужыкі, успомнім старажытных ваяроў, Давіда Гарадзенскага і яго герагічную барацьбу з тэўтонамі, вялікіх князёў Вітаўта і Міндоўга. Тых, хто загінуў пад Грунвальдам. Іх шлях да Грунвальда. Іх сумнеў, тугу, невядомасьць. А потым — жорсткую сечу, калі трэба было цярпець, змагацца і гінуць дзеля Перамогі.

Вітаўт гаварыў марудна і ціха. Кожнае слова клалася, як цяжкі камень у сьцяну абарончага збудаваньня. Ён замоўк і доўга, амаль хвіліну маўчаў, апусьціўшы сівую галаву долу.

— Перамогі заўсёды патрабавалі магутных намаганяў, — прашаптаў ён.

— Слава Героям, — ціха сказаў ён. — Слава Героям! — паўтарыў ён ізноў. Суседзі, маладыя хлопцы і мужыкі наперадзе са зьдзіўленьнем і інтарэсам паглядзелі на Вітаўта, яны нібы пачалі

# ВОКЛІЧ

Кастусь Травень

*Апавяданьне*



прачынацца.

На поле выбеглі футбалісты зборных Расеі і Беларусі.

Вітаўт разагнуў плечы, падняў літую глыбу стрыжанай сівой галавы, быццам неймаверны цяжар.

— Пагоня, — з намаганьнем і адным словам прамовіў Вітаўт.

— Па-го-ня! — энэргічна, рашуча, цьвёрда, непахісна пачаў скандаваць Вітаўт. Ён выпраменьваў упэўненасьць, зь ім побач нябачна стаялі ваяры, што палеглі пад Грунвальдам 587 гадоў назад.

— Па-го-ня! Па-го-ня! — спакойна, упэўнена, рашуча, цьвёрда, з унутранай сілай. Моладзь навокал Вітаўта падхапіла вокліч.

— Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! — вокліч панёсься па трыбунах стадыёну. Ужо скандавала некалькі соцень заўзятараў. Яшчэ некалькі імгненьняў, і ў адзіным пачуцьці, шчырым, адчайным жаданьні Перамогі ўсе, хто прысутнічаў на стадыёне, усталі. Як быццам сьвежы вецер з акіяну пранёсься над трыбунамі і вырваўся на футбольнае поле.

..........

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў, накіраваны ў Менск для ўвасабленьня імпэрскіх плянаў Расеі, ажыцьцяўляў кантроль за ходам футбольнага матча зборных Расеі і Беларусі.

Утульна ўладкаваўшыся ў крэсьле на трэцім паверсе штаб-кватэры СНГ, палкоўнік назіраў ходу гульні ў тэлевізіі і маленькімі глыткамі смакаваў каву. Зрэдку ён паглядаў на сакратарку-рэфэрэнта Аліну Бандарэвіч, прыгажуню зь непаўторнай паставай. Ад Аліны ішла хваля такіх моцных флюідаў, што ў 37-гадовага палкоўніка ФСБ ад спакусы пацелі далоні.

— Як Вы думаеце, Фарыд Ахмедавіч, хто сёньня пераможа, вашы ці нашы? — Аліна зірнула на Іванова сваімі чароўнымі цёмна-сінімі вачыма.

— Бульбаводы няздатныя да перамог. Яны ўжо прайгралі ўсё, што можна было прайграць, на сто гадоў наперад.

Палкоўнік выключыў гук у тэлевізары. З футболам усё ясна. Можна было пераходзіць да прыемнай падрыхтоўчай працы, зьвязанай з вэрбоўкай агента.

— Называй мяне проста Фарыд, — палкоўнік падышоў да Аліны, аблапіў позіркам увесь непаўторны зьбег славутай сынусойды, стрымаўшы зьвярыны крык жаданьня, пасьля па-партыйнаму моцна, упэўнена ўзяў дзьвума рукамі за сьцёгны і магутна — ня вырвацца і не паварушыцца — прытуліў да сябе.

— Фарыд Ахмедавіч, Вы што, з глузду зьехалі, — спалохана закрычала Аліна.

На другім паверсе будынка рэфэрэнт па міжнародных справах СНГ Арсен Гайдукоў, ён жа сакрэтны агент ФСБ, назіраючы ў маніторы разьвіцьцё падзеяў, уключыў запіс.

..........

Між тым, на футбольным полі адбылося непрыкметнае здарэньне, на замену выйшаў паўабаронца Кастусь Канапелька. Ён выбег, падхоплены магутным жаданьнем тысяч людзей аказаць супраціў, змагацца і перамагчы.

— Па-го-ня, Па-го-ня, Па-го-ня, — стагнаў, енчыў, плакаў, патрабаваў, пагражаў стадыён, і ў гэтым крыку-стогне яны, футбалісты зборнай Беларусі, чулі водгалас усіх тых няшчасьцяў, што выпалі на долю іхнага шматпакутнага народа. Сёньня, 11 гадоў пасьля Чарнобыля, сваякі гэтых людзей валіліся адзін за адным у магілу, пакідаючы безабароннымі сваіх дзяцей, жонак і мужоў у адзіноце перад разрухай, беспрацоўем, голадам...

Кастусь праглынуў камяк, змахнуў сьлёзы. Капітан каманды Алесь Юркевіч падбег да яго, запытаў, — Што?

— Што, — адказаў Кастусь, — ня бачыш што! Трэба Перамога.

Алесь кіўнуў. У Алеся безнадзейна хворая жонка памірала ў шпіталі і яму ня трэба было шмат словаў.

Каманда Беларусі пачала гуляць у зусім іншую гульню, настойлівую, тэхнічную, стваральную. На 61-й хвіліне матча Кастусь Канапелька ў падкаце забраў мяч у цэнтра абароны расейцаў Сяргея Мамедава і, набіраючы хуткасьць, памчаў наперад, на супрацьходзе праскочыў праз расейскую абарону, прайшоў крыху на край, на вугал штрафной, магутна паскорыўся і выкаціўся на брамніка расейцаў Руслана Бабіджакава, які маланкай кінуўся ў ногі. Кастусь імгненна катануў мяч уздоўж пустой брамы, і Юрась Старавойтаў з асалодай увагнаў гол у сетку пустое брамы зборнай Расеі. Стадыён выбухнуў стогнам радасьці. Цыгарэты, бляшанкі зь півам, газэты і часопісы, — усё было імгненна кінута пад ногі.

— Па-го-ня! Па-го-ня! — у адзіным жаданьні тысячы галасоў заўзятараў прасілі працягу.

Пасьля хуткай імклівай перапасоўкі ў цэнтры поля, такой, што нават у заўзятараў закружылася ў галаве, Кастусь Канапелька атрымаў мяч, паскорыўся, адарваўся ад абаронцаў на нейкія сантымэтры і магутна стрэліў па браме нізам. Бабіджакаў тыграм кінуўся ў кут, адбіў мяч перад сабою і цэнтральны нападнік беларусаў Алесь Юркевіч ластаўкай выскачыў з натоўпу футбалістаў і галавой загнаў мяч пад бэльку. Лік стаў 2:2.

— Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! — скандаваў народ. Здавалася, што дзесьці грозна грымеў гром... Ціхі, памяркоўны дзень некуды зьнік, на зьмену яму прыйшоў суворы, непрадказальны, трывожны час. Час дзеяньня і барацьбы.

Міліцыянты разгублена бегалі па трыбунах, ня ведаючы, што рабіць. Тэлекамэнтатары, як попкі паўтаралі, што пры ліку 2:2 зборная Расеі ўсё адно абыходзіць зборную Ўкраіны паводле лепшай розьніцы мячоў і займае першае месца ў турніры.

Генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў з Масквы па віртушцы шукаў палкоўніка Фарыда Іванова, які ў гэты час вёў актыўную барацьбу за штонікі Аліны, якія ўсё ніяк не здымаліся.

Рэфэрэнт СНГ Арсен Гайдукоў, ён жа агент ФСБ у Менску, паглядаў на тэлеманіторы за няўдалымі патугамі Фарыда і задаволена пасьмейваўся ў а-ля прэзыдэнцкія вусы.

— Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! — стадыён грозна патрабаваў Перамогі.

Расейская зборная рванулася ўперад, але каманда Кастуся Канапелькі гуляла на роўных. Яны ўжо паверылі ў сябе. Гэтая роўнасьць беларусаў, іх халоднажорсткая прагматычная гульня вымушала расейцаў злаваць, бо роўнасьць учорашніх аўтсайдэраў абражала іхнюю годнасьць, стварала псыхалягічны дыскамфорт. Супраць іх гуляла тэхнічная, жорсткая, злосная непахісна-валявая каманда, якая ведала нешта, чаго ня ведалі расейцы. На вачах заўзятараў адбываўся дзіўны пералом — нараджэньне каманды пераможцаў.

..........

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў пераўзбудзіўся. Ягонаму целу патрэбная была гэтая ашаламляльная постава, маладосьць і шчырасьць гэтай жанчыны, яе тэмпэрамэнт, яе энэргічныя рухі насустрач.

Ён каротка і рэзка, без замаху ўдарыў даланёю па шчацэ Аліны, каб аглушыць яе, выклікаць шок. Потым, схапіўшы за кофтачку, белую з гальштукам і гузікамі, зь сілай рвануў яе ў розныя бакі, так што гузікі кулямі заляскаталі па кабінэце. Дзівосныя, рэдкай прыгажосьці грудзі белай жанчыны паўсталі перад вачыма Фарыда. Палкоўнік загырчаў па-тыгрынаму жорска, бязьлітасна. Зараз ён кінецца, разарве гэтыя прыгожыя штонікі і растопча жыцьцё прыгажуні. Але ў гэты момант недзе блізка, так пагрозна і моцна грымнула, нібы лёгкі землятрус прайшоў па пакоі. Захісталіся люстры, зазьвінелі шыбы ў вокнах. Амаль поўны стадыён заўзятараў — за паўгадзіны туды набегла тысяч трыццаць пяць народу — стоячы вітаў трэці гол зборнай Беларусі, які забіў Кастусь Канапелька.

Ад такой жудаснай несправядлівасьці расейская зборная аслупянела і за хвіліну да канца гульні атрымала чацьверты гол у сваю браму.

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў, кінуўшы Аліну і пазіраючы ў экран тэлевізара, ліхаманкава даваў каманду праз радыё: я — Калуга, я — Калуга, Енісей, Ангара, Волга, Астрахань, Саратаў, Волагда, дзейнічаць па пляне нумар тры. Паўтараю, дзейнічаць па пляне нумар тры... — Плян нумар тры прадугледжваў шырокамаштабную правакацыю.

У гэты момант рэфэры матча, судзьдзя міжнароднай катэгорыі з Латвіі падняў рукі ўгору. 4:2 на карысьць зборнай Беларусі. Каманда Ўкраіны выйшла ў фінал чэмпіянату сьвету.

На стадыёне заўзятары грымелі дзясяткамі тысяч галасоў: Слава Героям! Слава Героям! Слава Героям!

Алесь Юркевіч — капітан каманды, плакаў, не саромеючыся, у цэнтры поля і выціраў сьлёзы дзьвюма рукамі. Уся каманда абступіла яго, віншавала з двума галамі, а ён заліваўся сьлязьмі на вачах усёй Эўропы. Ён плакаў аб сваім прапалым жыцьці, аб любімай жанчыне, што пакутліва памірала ў шпіталі, аб першай Перамозе зь вялікай літары.

У Кіеве, на Хрышчаціку дзясяткі тысяч кіяўлян скандавалі "Жыве Беларусь!" Усё мужчынскае насельніцтва Ўкраіны выйшла на вуліцы і сьвяткавала Перамогу зборнай Беларусі.

Генэрал ФСБ, атрымаўшы праз сакрэтны канал тэлезапіс, з шалёнай злосьцю назіраў за патугамі палкоўніка Фарыда Іванова.

Савет Бясьпекі Беларусі ў поўным складзе сабраўся ў прэзыдэнцкім палацы і чакаў самога прэзыдэнта, які вёў перамовы з Масквой пра накіраваньне ў Менск часьцей Пскоўскай і Разанскай дывізіяў парашутна-дэсантных войскаў.

Праз гадзіну палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў панура сядаў у машыну, каб ехаць на аэрадром, на тэрміновы выклік з Масквы. Запруць у Хакасію на 10 гадоў, з жахам думаў Фарыд. Глухі страх перад дзікай, азіяцкай Сібір'ю мядзьведзем варочаўся ў ягонай душы. Праспэкт Скарыны, запоўнены натоўпамі людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьмяяўся, сьпяваў, сьвяткаваў сваю Перамогу. "Вольва" марудна рухалася па праспэкце, над пярэднім крылом трапятаў дзяржаўны сьцяжок Расеі. Аднекуль з натоўпу вылецела нешта бліскучае і ўрэзалася ў лабавое браніраванае шкло самахода, заліўшы фарбай палову паверхні.

— Прыехалі, — кіровец уключыў дворнікі, якія размазалі фарбу па ўсім шклу, і адразу выключыў іх, зразумеўшы сваю памылку.

— Трэба зьняць сьцяжок, а то тут нас і пахаваюць, — прамырмытаў Фарыд Іваноў.

Дывізіі ПДВ Расеі ўпаўзалі ў чорныя пашчы грузавых летакоў.

Войскі НАТО паднятыя па трывозе на ўсім Эўрапейскім кантынэнце, прыводзіліся ў баявую гатоўнасьць.

Гісторыя, нібы прачнуўшыся, хутка імкнулася наперад.

Генэрал-лейтэнант ФСБ Далмат Пятроў, седзячы ў сваім маскоўскім кабінэце, у цёплым скураным крэсьле, стомлена заплюшчыў вочы. Нягледзячы на поўны крах місіі Фарыда Іванова, ён са зьдзіўленьнем адчуў у глыбіні душы задаволенасьць. Здаравяк Фарыд усё ж ня здолеў абламаць беларускую прыгажуню, і гэта было прыемна старому імпатэнту Далмату Пятрову. Не сьпяшаючыся, ён смакаваў усе падрабязнасьці гэтай чужой жыцьцёвай паразы... Няўдача прыгажуна Фарыда спадабаецца ўсім вышэйшым кіраўнікам ФСБ, прэм'ер-міністру, і, магчыма, самому Прэзыдэнту...

Дзядок задаволена цмокнуў вуснамі, выццам абсмоктваў смажанага ў сьмятане карася.

... Параза ў Беларусі, а яна чакалася даўно, была стратэгічна абумоўленая, і ўсе лёгка ды задаволена сьпіхнуць яе на Фарыда Іванова і на яго, генэрал-лейтэнанта Далмата Пятрова.

Генэрал задрамаў, яму сьніўся луг і ён, малады афіцэр КГБ, як жарабок, імчыць па зялёнай траве, хутка наганяючы Аліну Бандарэвіч, якая ўцякае ад яго і спалохана азіраецца. Зараз ён схопіць яе, паваліць у траву, пачне здымаць розныя жаночыя штукі, дабярэцца да яе і пакажа, што значыць сапраўдны расейскі мужык.

Дзядок-генэрал сапеў, пускаючы сьліні, і сьніў, сьніў, сьніў тое, чаго так моцна хацеў, жадаў, пра што марыў...

І разам з генэралам спала і марыла ў сьне пра сваю вялікасьць уся неабсяжная Расея, гісторыя якой нетаропка рухалася па вытаптаным стагодзьдзямі коле.

Бэртольд Брэхт

# ЦЭЗАР

Ад пачатку сканіка дыктатар ведаў, што дыктатуры засталіся лічаныя дні.

Чужаніца, які прыяжджаў з правінцыі, знаходзіў сталіцу больш імпазантнай, чымся раней. Горад непараўнальна разросься; стракатая мешаніна народаў запаўняла разбудаваныя кварталы; завяршалася будоўля магутных урадавых гмахаў; у дзелавым цэнтры не адбіцца было ад новых праектаў; дзелавое жыццё мела нармальныя рысы; рабы былі танныя.

Рэжым здаваўся добра ўмацаваным. Дыктатура была абвешчаная дыктатарам на пажыцьцёвы тэрмін, і цяпер падрыхтоўваўся НАЙВЯЛІКШЫ ЯГОНЫ ЧЫН, — захоп Усходу, здаўна чаканая пэрсідзкая ваенная выправа, сапраўднае другое Аляксандрава нашэсьце.

Цэзар ведаў, што ён не перажыве гэты месяц. Ён стаяў на вяршаліне сваёй улады. Такім чынам, перад ім ляжала бездань.

Вялікае паседжаньне Сэнату 13 сакавіка, на якім дыктатар у сваёй прамове выступіў супраць "пагрозьлівай пазыцыі пэрсідзкага ўраду" і зрабіў спавешчаньне пра тое, што ён у Александрыю, сталіцу Эгіпту, сьцягнуў войскі, паказала прыкметна індыфэрэнтнае, нават халоднае стаўленьне Сэнату. Пад час прамовы сярод сэнатараў курсаваў ганебны пералік сумаў, якія дыктатар пад фальшывым імем дэпанаваў у гішпанскіх банках: дыктатар пераводзіць сваю прыватную маёмасьць (110 мільёнаў) за мяжу! Дык ён ня верыць у сваю вайну? Або ён прадугледжвае наогул вайну ня супраць Пэрсіі, а вайну супраць Рыму? — Сэнат ухваліў ваенныя крэдыты аднагалосна, як звычайна.

У палацы Клеапатры, гэтым цэнтры ўсіх інтрыгаў, што тычацца Ўсходу, сабраліся вядучыя вайсковыя чыны. Эгіпэцкая царыца зьяўляецца сапраўднай натхняльніцай пэрсідзкай вайны. Брутус і Касіюс, як і іншыя маладыя афіцэры, віталі трыюмф яе ваеннай палітыкі ў Сэнаце. Яе прыдумка запусьціць у абарот ганебны пералік атрымала належную ўхвалу і выклікала сьмех. Дыктатар будзе дзівіцца, калі ён паспрабуе атрымаць ухваленыя крэдыты ў рымскім цэнтры...

Сапраўды, Цэзар, які не пакінуў без увагі халоднасьць Сэнату пры ўсёй гатоўнасьці таго да згоды, меў магчымасьць канстатаваць крайне раздражнёны настрой таксама і ў асяродзьдзі прадпрымальнікаў. У гандлёвай палаце ён падвёў фінансістаў да вялізнай мапы, павешанай на сьцяну, і тлумачыў ім пляны сваіх выправаў у Пэрсію і Індыю. Паны ківалі галовамі, аднак потым пачалі гаманіць пра Галію, якая захопленая ўжо колькі гадоў таму, і дзе ўжо зноў успыхнулі крывавыя паўстаньні. "Новы парадак" не працуе. Была выказана прапанова: Ці нельга новую вайну распачаць лепш недзе ўвосені? Цэзар не адказаў, рэзка выйшаў з залі. Паны ўзьнялі рукі ў рымскім вітаньні. Нехта прамармытаў: "Кепска ў дзядзькі з нэрвамі".

З чаго раптам ім расхацелася вайны?

Вынікі запытаньняў падаюць дзіўныя зьвесткі: зьбраёўні ліхаманкава рыхтуюцца да вайны; іхныя акцыі рэзка падскочылі; кошты на рабоў таксама растуць...

Што гэта значыць? Яны за вайну дыктатара і адмаўляюць яму ў грашах на яе?

Пад вечар Цэзар ведае, што гэта значыць: ЯНЫ ХОЧУЦЬ ВАЙНЫ, АЛЕ БЕЗЬ ЯГО.

Ён аддае загад арыштаваць пяцёх банкіраў, ён глыбока ўзрушаны, блізкі да нэрвовага зрыву, чаму дзівіцца ягоны ад'ютант, які бачыў яго сярод крывавых бітваў абсалютна спакойнага. Ён трошкі супакойваецца, калі прыходзіць Брутус, якога ён вельмі любіць. Між тым ён не пачуваецца дастаткова моцным, каб прагледзець дасье, дасланае яму ягонай даверанай асобай у дзеланым цэнтры. Там імёны змоўшчыкаў, сярод іх імя Брута. Яны рыхтуюць замах на ягонае жыццё. Страх знайсьці ў дасье ("Яно такое таўсьценнае, страшна тоўстае") таксама й знаёмыя імёны не дазваляе дыктатару адкрыць яго. Брутус просіць шклянку вады, і раптам Цэзар аддае нераскрытую папку сакратару — прачытаю пазьней.

Вялікі вэрхал усчынаецца ў палацы Клеапатры, калі спалатнелы і падаўлены Брутус паведамляе пра дасье аб змове. Цэзар можа прачытаць яго ў любы момант. Клеапатра зь цяжкасьцю супакойвае прысутных, зьвяртаючыся да іхнага жаўнерскага гонару, а сама аддае загад пакаваць рэчы.

У Цэзара тым часам зьяўляецца для справаздачы эдзіл паліцыі. Ён трэці сёлета, працуе толькі два месяцы, двух ягоных папярэднікаў зьнялі, бо яны былі ўблытаныя ў змову. Эдзіл гарантуе дыктатару асабістую бясьпеку — нягледзячы на хваляваньне, якое ахапіла дзелавое асяродзьдзе пасьля арышту банкіраў, якое распаўсюджваецца на ўсё больш шырокія ўплывовыя колы... Пэрсідзкая вайна, у хуткім пачатку якой эдзіл, здаецца, ня сумняваецца, прымусіць, на ягоны погляд, замаўчаць апазыцыю. Пакуль ён выкладае маштабныя мерапрыемствы па арганізацыі аховы, якія лічыць неабходнымі, Цэзар скрозь яго, як здань, бачыць сваю сьмерць; бо ён павінен памерці.

Яго данясуць да Портыка Пампэя, там ён выйдзе, прыме прасіцеляў, увойдзе ў храм, адшукае вачыма таго ці іншага сэнатара, каб павітацца, сядзе ў сваё крэсла. Пройдуць звычайныя цырымоніі, ён паназірае. Потым змоўнікі, — у Цэзаравай мроі яны ня маюць абліччаў, толькі белыя плямы там, дзе павінны быць твары, — падыйдуць да яго зь нейкай нагоды. Нехта зь іх дасьць яму нешта прачытаць, ён працягне руку, яны накінуцца на яго, ЁН ПАМРЭ. Не, вайна на Ўсходзе не для яго. Найвялікшае зь ягоных прадпрыманьняў не адбудзецца: УСЁ СЫШЛОСЯ ДА ТАГО, КАБ ЖЫВЫМ УЗЫСЬЦІ НА КАРАБЕЛЬ, які завязе яго да ягоных войскаў у Александрыю, у адзінае месца, дзе ён, магчыма, будзе ў бясьпецы.

Калі позна ўвечары вартавыя ўбачылі, як некалькі паноў уваходзяць у апартамэнты дыктатара, яны, як заўсёды, падумалі, што гэта генэралы і вайсковыя інспэктары, якія хочуць абмеркаваць пэрсідзкую вайну. Але гэта былі ўсяго лекары, дыктатар патрабаваў снатворнага.

Наступны дзень, 14 сакавіка, прайшоў бязглузда і марудна. Пад час ранішніх практыкаваньняў у фэхтавальнай залі Цэзару трапіла непараўнальная думка. Сэнат і дзелавыя колы супраць яго, як быць? ЁН ЗЬВЕРНЕЦЦА ДА НАРОДА!

Ці ня быў ён некалі вялікім народным трыбунам, мудрай надзеяй дэмакратыі? Ён высуне велічную праграму, якая напалохае Сэнат насьмерць, — падзел зямлі, паселішчы для беднякоў.

Дыктатура? Больш ніякай дыктатуры! Вялікі Цэзар пойдзе ў адстаўку, вернецца ў прыватнае жыцьцё, паедзе, напрыклад, у Гішпанію...

Зьнясілены чалавек сеў быў на каня, яго млява правезьлі ўкола па фэхтавальнай зале, аж раптам (пры пэўных думках — пра народ) ён напружыўся, нацягнуў цуглі, прышпорыў каня, так што той памчаўся запацелы; сьвежы, новы чалавек пакідаў фэхтавальную залу.

Нямногія з тых, хто гуляў у гэтую вялікую гульню, сёньняшній раніцай пачуваліся настолькі ўпэўнена, як Цэзар... Змоўнікі чакалі арышту. Брутус выставіў вартавых у сваіх садах, у розных пунктах ён трымаў напагатове коней. Шмат у якіх дамах палілі папірусы. У сваім палацы на Тыбры Клеапатра рыхтавалася да дня сьмерці. Цэзар павінен быў ужо даўно прачытаць дасье. Яна карпатліва займаецца туалетам, адпускае на волю рабоў, раздае падарункі. Хутка павінны прыйсьці забойцы.

Апазыцыя зрабіла свой удар учора. Сёньня чарга ўдарыць за рэжымам. На прыёме ў дыктатара становіцца зразумела, як будзе выглядаць гэты ўдар у адказ.

У прысутнасьці многіх сэнатараў Цэзар расказвае пра свой новы плян. Ён прызначыць выбары, пойдзе ў адстаўку. Ягоны лёзунг: НЕ ВАЙНЕ! Рымскі грамадзянін будзе захопліваць італьянскую зямлю, а не пэрсыдзкую. Бо як жыве рымскі грамадзянін, уладар сьвету? Цэзар апісвае гэта.

Акамянелыя твары моўчкі слухаюць страшнае апісаньне нэндзы звычайнага рымскага грамадзяніна. Дыктатар скінуў маску, ён будзе падбухторваць натоўп. Праз паўгадзіны пра гэта даведаецца ўвесь дзелавы квартал. Варажнеча паміж прадпрымальнікамі і Сэнатам; паміж банкірамі і афіцэрамі зьнікне, усіх аб'ядвае адзінае: прэч Цэзара!

Цэзар ведае, што ягоная прамова — гэта памылка, яшчэ да канца яе. Ведама, яму ня трэба было надта адкрывацца. Ён рэзка мяняе тэму і спрабуе ўжыць свой выпрабаваны шарм. Ягоным сябрам няма чаго баяцца. Іхныя маёнткі не закрануць. Трэба дапамагчы арэндоўшчыкам атрымаць зямлю, але гэта будзе рабіць Сэнат, зь дзяржсродкаў. Лета выдасца на славу, яны будуць ягонымі гасьцямі ў Баю.

Калі яны падзякавалі за запрашэньне і сышлі, Цэзар загадвае зьняць і арыштаваць эдзіла паліцыі, які яшчэ ўчора выпусьціў на волю арыштаваных банкіраў. Потым ён пасылае свайго сакратара празандаваць настрой у дэмакратычных колах. Цяпер усё залежыць ад пазыцыі народа.

Дэмакратычныя колы — гэта палітыкі даўно распушчаных клюбаў рамесьнікаў, якія ў слаўныя часы рэспублікі адыгрывалі галоўную ролю на выбарах. Дыктатура Цэзара разьбіла гэты некалі магутны апарат і з часткі сяброў клюбаў стварыла грамадзянскую гвардыю, гэтак званыя вулічныя клюбы. Яны таксама былі распушчаныя. Але цяпер сакратар Тытус Рарус расшуквае плябейскіх палітыкаў, каб празандаваць іхны настрой.

Ён размаўляе з былым старшынём гільдыі тынкоўшчыкаў, потым з адным з былых выбарчых агітатараў, шынкаром. Абодва субяседнікі паводзілі сябе крайне асьцярожна, пазьбягалі размовы пра палітыку. Яны спасылаліся на старога Карпо, былога лідэра будаўнікоў, як на найбольш уплывовага, БО ЁН СЯДЗІЦЬ У ТУРМЕ.

Між тым, да Цэзара зьявіўся надзвычайны наведнік: Клеапатра. Царыца больш ня вытрымлівала напружаньня. Яна хацела ведаць, што будзе зь ёю. Яна падрыхтавалася да сьмерці, скарысталася ўсе мастацтвы Эгіпту, каб мабілізаваць сваю прыгажосьць, знакамітую на трох кантынэнтах. Здаецца, дыктатар зацягвае час. Як заўжды ў апошнія гады, ён гатовы даваць ёй парады з вытанчанай ветлівасьцю, час ад часу падкрэсьліваючы, што ён хоць зараз можа стаць ейным каханкам, толькі б яна пажадала такога, як ён, нявопытнага знаўцу жаночай прыгажосьці. І ні слова пра палітыку. Яны сядаюць у атрыюме і кормяць залатых рыбак, гамоняць пра надвор'е. Ён запрашае яе гэтым летам у Баю...

Яна не супакойваецца. Ён, здаецца, яшчэ ня скончыў падрыхтоўку ўдару, прычыны відавочна ў гэтым. Яна адыходзіць з напружаным выразам твару. Цэзар праводзіць яе да ейных насілак, а потым накіроўваецца ў бюро, дзе юрысты і сакратары ліхаманкава працуюць над праектамі новага выбарчага закону. Праект павінен захоўвацца ў таямніцы: ніхто ня мае дазволу пакідаць палац. ГЭТАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ БУДЗЕ САМАЙ СВАБОДНАЙ З ТЫХ, ПАВОДЛЕ ЯКІХ ЖЫЎ РЫМ...

Цяпер сапраўды слова за народам...

Аднак Рарус надзвычай доўга адсутнічае — пра што яны там могуць весьці перамовы, гэтыя ж плябеі павінны схапіцца абедзьвюма рукамі за любы шанец з боку дыктатара, — Цэзар вырашае пайсьці на сабачыя бегі. Ён адчувае патрэбу знайсьці з народам непасрэдны кантакт, а народ трэба шукаць на сабачых бегах. — Арэна запоўненая яшчэ ня цалкам. Цэзар накіроўваецца не ў вялікую ложу, ён сядае вышэй, сярод натоўпу. Ён ня мусіць баяцца, што яго пазнаюць, людзі бачылі яго заўсёды толькі здалёк.

Цэзар некаторы час прыглядаецца, а потым і сам ставіць на пэўнага сабаку. Побач зь ім сеў чалавек, ён яму тлумачыць, чаму ён паставіў менавіта на гэтага сабаку. Чалавек ківае. У наступным шэрагу ўспыхвае нязначная спрэчка. Некалькі чалавек, здаецца, селі не на свае месцы, тыя, што прыйшлі, выцураюць іх. Цэзар спрабуе завязаць размову з сваімі суседзямі, нават пра палітыку. Яны адказваюць млява, і тады ён здагадваецца, што яны ведаюць, хто ён: ён сядзіць сярод агентаў сваёй тайнай паліцыі.

Раззлаваны, ён устае і выходзіць. А сабака, на якога ён паставіў, між тым, выйграе...

Перад арэнай ён сустракае свайго сакратара, які шукае яго. Ён прынес кепскія навіны. Ніхто ня хоча ўступаць у перамовы. Паўсюль пануе страх або нянавісьць. Больш апошняе. Чалавек, якому давяраюць, гэта — Карпо, будаўнік. Цэзар, насупоўшыся, слухае. Ён раптам мякчэе й загадвае несьці сябе ў Мамэртынскую турму. Ён будзе гаварыць з Карпо.

Спачатку трэба адшукаць Карпо. У гэтых вязьніцах столькі плябейскіх вязьняў, што яны гніюць тут тузінамі. Але пасьля пэўнай мітусьні будаўніка Карпо выцягваюць на доўгім дроце зь ягонага лёху, дыктатар можа пагаманіць з чалавекам, якому давярае народ Рыму.

Яны сядаюць тварам у твар і разглядаюць адзін аднаго. Карпо стары чалавек, магчыма, ён не старэйшы за Цэзара, але ён выглядае на васьмідзесяцігадовага. Вельмі стары, вельмі лядашчы, але не зламаны. Цэзар бяз хітрыкаў разгортвае перад ім свой нечуваны плян аднаўленьня дэмакратыі, прызначэньня выбараў, свайго адыходу ў прыватнае жыцьцё і г.д. і да т.п.

Стары маўчыць. Ён ня кажа ані так, ані не, ён маўчыць. Ён утаропіўся ў Цэзара і не падае ані гуку. Калі Цэзар спыняецца, яго зноў адводзяць на доўгім дроце ў ягоны лёх. Мара пра дэмакратыю выдыхалася. Ясна: калі яны й хочуць пераварот, то безь яго. Яны яго надта добра ведаюць.

Калі дыктатар вяртаецца ў свой дом,



**Бэртольд Брэхт** (1898-1956), нямецкі пісьменьнік, драматург. Аўтар "Трохграшовага раману", п'есаў "Што той жаўнер, што гэты", "Трохграшовая опэра", "Жыцьцё Галілея".

сакратар намагаецца растлумачыць вартавым, хто гэта. Яны новыя. Новы эдзіл адаслаў прэч рымскіх вартавых і разьмясьціў у палацы нэгрыцянскую кагорту. Нэгры больш надзейныя, яны не разумеюць лаціну і таму іх цяжэй падбухторыць, заразіць настроем, што пануе ў горадзе...

Ноч у палацы праходзіць неспакойна. Цэзар неаднакроць устае і ходзіць па незьлічоных прасторах палаца. Нэгры п'юць і сьпяваюць. Ніхто не зьвяртае ўвагі на яго, ніхто ня ведае яго. Ён слухае іхныя сумныя сьпевы і выходзіць у стайню, да свайго любімага каня. Прынамсі конь пазнае яго... Вечны Рым распасьцёрся ў неспакойным паўсьне. Перад брамамі начлежак яшчэ стаяць разораныя рамесьнікі, чакаючы сваёй чаргі паспаць тры гадзіны, і чытаюць вялікія, паўабдзёртыя плякаты, што вярбуюць жаўнераў на ўсходнюю вайну, якая ніколі не адбудзецца. У садах, дзе звычайна бавіцца залатая моладзь, вартавыя зьніклі яшчэ папярэдняй ноччу. З палацаў даносяцца п'яныя галасы. Праз паўднёвую гарадзкую браму цягнецца невялікая кавалькада: царыца Эгіпту, шчыльна замаскаваная вэлюмам, пакідае горад... А другой гадзіне ночы Цэзар успамінае пра нешта, устае і ідзе ў начной вопратцы ў палацавы флігель, дзе юрысты ўсё яшчэ працуюць над новай канстытуцыяй. Ён адпускае іх спаць.

На золку Цэзару паведамляюць, што ягоны сакратар Рарус быў забіты ўначы. Відаць, нехта сачыў за ягонымі перамовамі з плябейскімі палітыкамі, і зь цемры да яго дацягнуліся моцныя рукі. Чые рукі? Сьпісы зь імёнамі змоўнікаў, якімі ён валодаў, зьніклі. Сакратар быў забіты ў палацы. Значыць, ужо і ў палацы няма бясьпекі для прыхільнікаў дыктатара?

Цэзар доўга стаіць перад паходным ложкам, на якім ляжыць мёртвы сакратар, апошні, каму ён давяраў, і гэты давер каштаваў таму жыцьця.

Калі ён выходзіў з пакою, адзін з п'яных вартавых жаўнераў зачапіў яго і не папрасіў прабачэньня. Цэзар нэрвова азіраецца ва ўсе бакі, пакуль спускаецца па сходах.

У атрыюме, дзе асабліва пустэльна, — ніхто не прыйшоў на вячэру, — ён сутыкаецца з пасланьнікам Антонія; консул, гэты ягоны цень, паведамляе яму, каб ён ні ў якім выпадку не хадзіў у Сэнат. Ёсьць пагроза ягонаму жыцьцю. Цэзар перадае Антонію паведамленьне, што ён ня пойдзе ў Сэнат. — Замест гэтага ён загадвае несьці сябе ў дом Клеапатры, паўз доўгія шэрагі ранішніх прасіцеляў, што стаяць перад ягоным палацам. Можа Клеапатра возьмецца фінансаваць ягоную ваенную выправу? Тады б яму не спатрэбіліся ані дзелавыя колы, ані народ.

Клеапатры няма дома. Дом зачынены. Здаецца, яна ад'ехала далёка... Назад у палац. Брама шырока расчыненая, чаго раней ніколі не было. Аказваецца, зьнялі варту. Уладар сьвету выхіляецца з сваіх насілак і глядзіць на свой дом, у які ён ўжо не рашаецца ўвайсьці.

Ён можа папрасіць у Антонія варту для аховы. Але ён не давярае ніякай ахоўнай варце. Лепш будзе хадзіць зусім бяз варты, тады прынамсі ня трэба яе баяцца. Куды пайсьці?

Ён аддае загад. Ён накіроўваецца ў Сэнат.

Ён ляжыць, адкінуўшыся ў насілках, не глядзіць ані направа, ані налева. Яго падносяць да Портыка Пампэя. Ён выходзіць. Разьбіраецца з прасіцелямі. Уваходзіць у храм. Шукае вачыма то таго, то іншага сэнатара і вітае іх. Сядае ў сваё крэсла. Пачынаюцца цырымоніі. Потым да яго падыходзяць змоўнікі зь нейкай нагоды. У іх ужо ня белыя плямы на карках, як ён бачыў гэта ў сваім сьне два дні таму: яны ўсе маюць твары, твары ягоных лепшых сяброў. Нехта зь іх дае яму нешта прачытаць, ён цягне руку. Яны кідаюцца на яго.

**Пераклаў зь нямецкай Валеры Буйвал**

Апублікаваны ўпершыню Эдгарам Аланам По ў часопісе "American Whig Review" ў сьнежні 1847 году, гэты верш першы раз быў пераўвасоблены па-беларуску ў 1991-ым. Алег Мінкін выканаў адметны высокаю культурай паэтычнага тэксту пераклад, які й зьмясьціла ў сваім першым нумары адноўленая "Наша Ніва".

Мінкінаўскі варыянт "Улялюм" – строга адпаведны арыгіналу. Бездакорны гукапіс і багацьце выяўленчых сродкаў прадвызначаюць хрэстаматыйную пазыцыю гэтага перакладу. А тым часам паявіўся і другі беларускі "Улялюм", пераўвасоблены з ангельскай непрафэсійным літаратарам. Валер Савіч зь Пінску яшчэ 3 гады таму ўзяўся за пераклад гэтага верша, нават ня ведаючы пра беларускія публікацыі паэтычнай і празаічнай спадчыны Эдгара По. Дасланы сёлета ў рэдакцыю "НН" пераклад "Улялюм" падахвоціў сп-ра Савіча чарговага разу абвешчаны на бачынах газэты праект публікацыі твораў амэрыканскага пісьменьніка. Ніжэй мы друкуем новы пераклад "Улялюм" з нашымі структурнымі, лексычнымі (сэнсавымі), рытмічнымі і графічнымі ўдакладненьнямі, адзначаючы пры гэтым большую адвольнасьць гэтага тэксту дачынна арыгінальнага ў параўнаньні з тэкстам А. Мінкіна.

І яшчэ беспасярэдне пра "Улялюм" – адзін, як лічыцца, з найбольш складаных для разуменьня вершаў Э. По. У паасобных сучасных амэрыканскіх выданьнях твораў По даецца нават сьціслы аналіз сюжэту гэтага твора. Але галоўнае ў "Улялюм", відаць, усё ж не сюжэтны рысунак, а гіпнатычная музыка кожнай страфы, якая й навявае пэўны настрой. Імя Ulalume ані ў ангельцаў, ані ў амэрыканцаў няма. Эдгар По стварыў яго, магчыма, абапіраючыся на лацінскі дзеяслоў ululare – "плакаць", "выць" (параўн. таксама і вытворнае ад яго ангельскае ululate з тым самым значэньнем). Ёсьць сьведчаньні, што сам аўтар вымаўляў гэтае імя як "Юлалум". Што да Абэра (Auber), Уіра (Weir), дык хутчэй за ўсё гэтыя ўласныя імёны выдуманыя По з адною мэтай: стварыць патрэбнае яму спалучэньне галосных і зычных гукаў. Валер Савіч у перакладзе прапануе яшчэ адно ўласнае імя Нод, паяўленьне якога выкліканае, ясна, патрэбамі рыфмаваньня. Пры канцы – пра багіняў. Астарце, фінікійскай багіні пачуцьцёвага каханьня і ўрадлівасьці, у вершы проціпастаўляецца багіня Месяца Дыяна як сымбаль цноты і беззаганнасьці.

**Ю.Б.**

### Эдгар Алан По

# УЛЯЛЮМ

Было неба сьцюдзёным і шэрым,
Лісьце мерна зьлятала на дол,
Сіратліва зьлятала на дол...
Быў кастрычнік, тужлівы бязь меры,
І журба панавала наўкол:
Каля возера духаў Абэра
Ў поўнай зданямі вобласьці Нод,
У гушчары вядзьмарскім Уіра
Ў змрочных нетрах разьлеглае Нод.

Паўз рады кіпарысаў - тытанаў
Я з Псыхеяй, душою маёй,
Брыў з Псыхеяй, душою маёй.
Былі дні — біла сэрца вульканам,
Бушавала агнём і бядой,
Неўтаймоўнай шалёнай бядой.
Так стыхія глыбінь ураганам
Рэкі лявы пякельнай сваёй
Вырынае бурлівым вульканам
Над прамерзлай паўночнай зямлёй.

Размаўлялі ў развражнай манеры,
Сумных дум заціхаў карагод,
Вялых згадак згасаў карагод.
Каля возера духаў Абэра
Ў Ноч Начэй мы забылі той год,
Той няўцешны, бязьлітасны год,
Як блукалі ў гушчары Уіра
Ў поўнай зданямі вобласьці Нод,
Як стаялі ля водаў Абэра
Ў змрочных нетрах разьлеглае Нод.

Зорны рух у нябёсах — да сконy
Гэтай ночы ўжо блізіўся час,
Ужо досьвітку блізіўся час.
Раптам вынырнуў зь цемры палону,
Азарыўшы дарогу і нас,
Серп Астарты празрыста-ружовы,
Тайным зьзяньнем чаруючы нас —
Выпаўз вузкі, празрыста-ружовы,
Быццам дзіўны, двухрогі алмаз.

"Бачыш, — мовіў я, — нас скрозь туманы
Дасягнула Астарты сьвятло,
Літасьцівай Астарты сьвятло!
О, яна ад ільдзістай Дыяны
Гарачэйшая й бачыць даўно,
Як пакутуе сэрца ад ранаў.
Нам зьбаўленьнем — Астарты цяпло,
З краю ўздыхаў пяшчота й цяпло.
Зыркім вокам з прасторы туманаў
Праз сузор'е Лява ў забыцьцё
Проста ў Лету пакліча ад зманаў —
Будзем зь ёй — знойдзем мы забыцьцё".



"Я ня веру, — сказала Псыхея, —
Дзіўнай зорцы, у небе застылай,
Бледнай зорцы, над намі застылай:
Ах, сьпяшайма — няма тут надзеі!
Ах, бяжым — каб хапіла ўсё ж сілы!"
Аж дрыжэла з жуды — па алеі
Яе крылы цягнуліся ў пыле,
Пакідаючы сьлед на алеі,
Белым пер'ем цягнуліся ў пыле,
Безнадзейна, бязрадна — у пыле.

Адказаў я: "Пакінем ваганьні,
Нам нябёсы даюць чысты знак,
Крышталёвы прываблівы знак!
Так даверся чароўнаму зьзяньню —
Сьвятліня прасякла задыяк,
Сярод ночы прайшла задыяк,
Каб паслаць нам надзею вяртаньня,
Да збаўленьня адкрыць вышні шлях.
О, павер, нам з краіны выгнаньня
Ў зьзяньні зоркі адкрыецца шлях,
Да збаўленьня асьветлены шлях".

Супакоіў, суцешыў Псыхею,
Ад тужлівых адводзячы дум,
Прадчуваньнем напоўненых дум.
І пайшлі мы далей у надзеі,
Аж дагнала зласвеснае: "Крум!" —
Нас спыніла магільня — і сум
Агарнуў нас нясьцерпны з Псыхеяй.
Я сказаў: "О, сястра, які сум!..
Што за надпіс на склепе бялее?"
Прашаптала яна: "Улялюм...
Тут заснула твая Улялюм".

Сэрца ўмомант пагасла, здранцьвела,
Нібы лісьце, умерзлае ў лёд,
Лісьце жухлае, скутае ў лёд.
І я ўскрыкнуў: "О, гора бязь меры!
Гэта ж нетры прывідные Нод...
О, я помню няшчасны той год:
Я блукаў паміж зданямі Нод,
Гэтай змрочнай краіны нягод,
У найстрашную ноч у той год
Сам, з жалобнаю ношай, бязь веры...
Што за дэман ізноў да нягод
Нас завёў у туманнасьць Абэра,
У пачварную, дзікую Нод?"

Мы ў сьлязох — я, яна — закрычалі:
"О, няўжо ў гэтай грознай глушы,
Духі чулыя ў гэтай глушы
Ля халодных муроў, што паўсталі
На пакуту збалелай душы,
Адзінокай, зьнябытай душы,
Промні грэшнай плянэты нам слалі,
Знакі зоркі зь пякельных вышынь,
Каб мінуласьці больш не шукалі,
Каб пазьбеглі няшчасьця ў цішы?"

**Пераклаў Валер Савіч**

*(агульная рэдакцыя Юрася Бушлякова)*

# "Убей президента" па-польску

"Пайшоў паэт за краты" — так называецца біяграфічная зацемка пра Славаміра Адамовіча, надрукаваная ў №2 польскага літаратурнага часопіса "Magazyn literacki". Зацемка папярэджвае нізку вершаў паэта ў перакладах Аляксандры Пацяюк і Чэслава Сэнюха. Адкрывае падборку цяпер добра вядомы верш "Убей президента" ("Zabij prezydenta"), які ўжо друкаваўся на старонках польскай пэрыядычнай прэсы. Аўтару перакладa Чэславу Сэнюху ў польскамоўным варыянце знакамітага "закліку да тэракту" ўдалося перадаць як энэргетыку супраціву брутальнаму, так і антыфашысцкі пафас, якія выразна праяўленыя Адамовічам у арыгінале.

Акрамя верша, што трапіў да замежнага чытача, дзякуючы асаблівым стараньням тутэйшых уладаў, у "Magazynie literackim" зьмешчаныя яшчэ чатыры пераклады вершаў Адамовіча, узятых са зборнікаў "Зваротныя правакацыі" (1994) і "Каханьне пад акупацыяй" (1996). У разьдзеле "Сярэдняя Эўропа" друкуецца таксама ўрывак з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля".

**Раман Гартовіч**

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА ХХ СТАГОДЗЬДЗЯ

# Хаім Суцін. Паж

... У 20-я гады ў мастацтве Заходняе Эўропы назіралася паўсюднае "адраджэньне" прадметнага жывапісу. У той ці іншай меры вартасьць мастацтва зьвязваецца з прызнаньнем каштоўнасьці прадметнага сьвету, антрапаморфнае і натураморфнае фігуратыўнасьці. У першую чаргу, гэта тычыцца творцаў, якія ў свой час адрынулі рэалізм, альбо не працавалі ў ягоным рэчышчы наогул. У сярэдзіне 10-х гадоў паварот да выяўленчасьці прадметнага сьвету запачаткавалі Пікаса, Дэрэн, Сэвэрыні. За імі вяртаньне ў "рэалізм" перажылі Лежэ, Глез, Грыс і многія іншыя. Такі пералом, падмацаваны праграмнаю заявай Както пра "вяртаньне ў парадак", адбіўся на лёсе ўсяго мастацтва Захаду...

... У гэты самы час ізноў становіцца актуальным экспрэсіянізм, ад якога ягоныя мэтры, нарвэжац Мунк і бэльгіец Энсар пакрысе эвалюцыянавалі ў бок нацыянальнага рамантызму. Рупарам абноўленага экспрэсіянізму становіцца Нямеччына, група мастакоў "Сіні вершнік". Іх экспрэсіянізм таксама зьмяняецца чыстым абстракцыянізмам. Але надыходзіць другое дзесяцігодзьдзе нашага веку, і Нямеччына, дзе былі падхопленыя францускія тэндэнцыі "новага ўрэчаўленьня", выплёхвае ў сьвет цэлы сонм экспрэсіяністаў. Дыкс, Грос, Шліхтар, Шад, Бэкман, Хофэр — цэлае сузор'е клясыкі экспрэсіянізму. Прынцып экспрэсіянізму — "рэзкая экспрэсія, якую выклікае дотык да запалёнае тканi сучаснага жыцьця". Нідзе і ніколі раней жыцьцё не ўяўлялася такім суплётам натуралізму і агіды, як у творах нямецкіх экспрэсіяністаў. Але, у адрозьненьні ад многіх іншых стыляў, экспрэсіянізм ня меў канкрэтнае радзімы. Даніну экспрэсіянізму склалі мастакі ў самых розных краінах. Праявы гэтае плыні можна ўгледзець і ў працах раньняга Кандзінскага і, вядома, у Шагала...

... Напрыканцы 10-х гадоў на Захад хлынула шматтысячная хваля мігрантаў з Усходняе Эўропы. Распад імпэрыяў, рэвалюцыі, войны, нацыяналізм маладых нацыяў пагнаў іх у сьвет. Іхны досьвед з Усходу праліўся дабратворным дажджом там, дзе іх гатовыя былі прыняць. Яны перахавалі на Захадзе тое, што не змагло б ацалець на іх Бацькаўшчыне. У Парыжы ў 1913 годзе зьявіўся яшчэ адзін наш зямляк, які прыехаў сюды ўжо мастаком — Хаім Суцін, родам са Сьмілавічаў, што пад Менскам...

... Сьмілавічы пачатку стагодзьдзя — гэта тры тысячы жыхароў, тры царквы, касьцёл, мячэць, сынагога. На краі мястэчка —славуты сьмілавіцкі палац, панскае гняздо, поўнае дзівосных скарбаў: карцінная галерэя са слынным ваньковіцкім "Міцкевічам на Аю-Дагу", музэй з каралеўскай зброяй, бібліятэка з архівам найвыдатнейшых беларускіх радоў. Гэтыя цуды зьбіраліся тры стагодзьдзі Сапегамі, Завішамі, Агінскімі, Манюшкамі — былымі ўладальнікамі мястэчка. Насупраць палаца, на беразе возера, стаяў лёгкі і сьпічасты старасьвецкі касьцёл пры вялікім кляштары місіянэраў, чыё карункавае ўбраньне і безьліч каштоўных абразоў зрабілі яго вядомай сьвятыняю ў краі. Па вядомасьці да сьмілавіцкага кляштара місіянэраў можна было параўнаць толькі старажытны сьмілавіцкі мізар, які цудам ацалеў да сёньня...

Сям'я Суцінаў належала да найбяднейшае часткі сьмілавіцкага кагалу. Бацька Хаіма зарабляў на жыцьцё тым, што лапаў заплаты. Маці, якая пусьціла на сьвет адзінаццаць дзяцей, састарэла заўчасна і, паводле сьведчаньня аднаго зь сяброў Суціна, ня надта даглядала сваіх дзяцей. З маленства Хаім прыносіў шмат амбарасу сваёй сям'і. З-за ягонае прагі маляваць усё навокал ніхто ў Сьмілавічах ня мог пачуваць сябе спакойна. Сваім жаданьнем маляваць людзей Хаім парушаў юдэйскае табу, якое катэгарычна забараняла выяўляць людзкія постаці.



**Хаім Суцін** (1893, Сьмілавічы, Менскі павет — 1943, Францыя) Мастак-жывапісец, адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў эўрапейскага экспрэсіянізму. З 1909 вучыўся прыватна ў Менску. У 1913 скончыў курсы мастакоў у Вільні. Жыў у Францыі.

Аднойчы ён рызыкнуў папрасіць у самога рабіна дазволу на тое, каб намаляваць ягоны партрэт. Разьюшаныя такім нахабствам дзеці рабіна, помсьцячы за абразу бацькі, зьбілі падлетка да паўсьмерці...

Не знаходзіў Хаім разуменьня і ў сям'і... Бацька, як мог, замінаў яму, а сёстры зьдзекваліся на ўсе лады.

Але Хаім Суцін быў упартым і яму шанцавала. Ён краў хатнія рэчы і выменьваў за іх у мясцовага чарцёжніка танны малявальны вугаль і маляваў ім усё запар: людзей, кароваў, сабак. Нават гісторыя са зьбіцьцём перавярнулася на ягоную карысьць: дзякуючы кампэнсацыі, якую ён атрымаў за калецтва, яму ўдалося зьехаць вучыцца ў Менск. У Менску ён, разам зь сябрам, пачаў браць прыватныя ўрокі ў аднаго мастака. Так у 1909 годзе распачалася ягоная мастацкая адукацыя.

Пасьля менскае вучобы Хаім Суцін замахнуўся на Вільню, куды ён прыехаў паступаць на трохгадовыя мастацкія курсы. Празьмерная эмацыйнасьць і закамплексаванасьць ледзьве ўсё не сапсавалі. Падчас уступных іспытаў ён, ня вытрымаўшы нэрвовае напругі, уцёк на калідор. Тут яго, заплаканага, у ліхаманцы, пабачыў нехта з прафэсараў і шчыра паспачуваў яму. Ён жа настаяў, каб Суціну дазволілі паўтарыць іспыт. Юны мастак справіўся з заданьнем выдатна.



*Хаім Суцін. "Паж", палатно, алей, 98x81 см, 1925. Мастацкая галерэя Олбрайт-Нокс, Буфала, Нью-Ёрк.*

Тут, у Вільні, Суцін спрычыніўся да высокага мастацтва ўсур'ёз. Мястэчковаму маладзёну гэты горад здаваўся Ерусалімам. Раскоша ўбраньня бажніцаў, музэі, антыквары... Падоўгу Суцін быў вымушаны капіяваць эўрапейскую клясыку са школьных рэпрадукцыяў. Вільня сваё зрабіла. Суцін зьведаў большы сьвет.

Паралельна, побач з прафэсійным сталеньнем, Суцін гартаваўся як асоба. Сьвет па-за мястэчкам быў вабны, але жорсткі. У віленскі пэрыяд ён малюе тое, пра што ўжо баліць — фантасмагорыю жыцьця жыдоўскіх абшчынаў. У гэты час ягоную душу разьдзіраюць жарсьці і духоўныя пошукі. Пакутліва перажываючы свой разрыў з родным яму асяродзьдзем, ён то піша суродзічаў, то, баючыся Бога, зьнішчае свае працы. Плёну тых гадоў, бадай, не засталося.

У 1913 годзе Хаім Суцін назаўсёды пакідае сваю Беларусь. Зьмяніць нешта на радзіме было не ў ягоных сілах. З гэтага часу і да скону ягоным прытулкам стала Францыя. Аднак тэма Бацькаўшчыны, якая стрэмкаю сядзела ў ягоным сэрцы, якая злучала ў адно роспач і надзею, замілаваньне і нянавісьць, засталася ва ўсёй ягонай далейшай творчасьці. Адзін з дасьледчыкаў, Марыс, піша, што Суцін шукаў у тэме былых суайчыньнікаў ноты, якія б у іх саміх выклікалі пачуцьцё непаразуменьня і крыўды. Ягоныя мадэлі — хатняя прыслуга, лёкай, альбо пасыльны — ахвярныя казлы і сымбалі самапрыніжэньня.

Закамплексаванасьць Суціна, якая вынікала зь бясконцых няўдач, нелюбові, нястачы са школьнае лавы, зайшла так далёка, што нават у Францыі ён не пачуваў сябе спакойна, баючыся кпінаў і зьдзеку. Часьцяком, не дачакаўшыся меркаваньня гледачоў, сяброў і калегаў, ён зьнішчаў свае працы, на гэты раз баючыся ня Бога, а людзей. Захаваліся толькі адзінкі ягоных твораў пэрыяду першых пяці гадоў жыцьця ў Францыі. Пераважна гэта кавалкі штодзённасьці, сцэнкі вулічнага жыцьця Парыжу, постаці ляжачых і жанчын — пераклад на францускую беларускага досьведу. Але ўжо ў іх прысутнічае тое, што стане адметнаю рысаю ягонае далейшае творчасьці: лямант фарбаў, скасавураная, як у крывым люстэрку, рэчаіснасьць, ня сьмешная, але вусьцішная, шырокі вольны рух пэндзля.

Калі Хаім Суцін дабраўся да Парыжу, тут ужо быў Шагал, зь якім ён жыў напачатку разам у зьбяднелым пансіёне мастацкага салёну "La Ruche". Тутака ж жылі і Цадкін, і Архіпенка, і многія іншыя маладыя мастакі. З 1916 году працы Суціна бярэцца прадаваць Леапольд Збароўскі, па рэкамэндацыі Амэдэа Мадыльяні. Гэткім чынам лёс зьвёў гэтых розных людзей надоўга. Дарэчы, партрэты Збароўскага і Суціна — клясычная спадчына Мадыльяні. Дзякуючы таму ж Мадыльяні, Суцін адкрывае для сябе францускую правінцыю. Яны разам альбо паасобку выпраўляліся на Пірэнэі, на Міжземнамор'е. Сьвет, убачаны Суціным, просты і гарманічны, трывала ўсталяваны сярод эпічных краявідаў, пераломваецца ў ягонай сьвядомасьці, і пераўтвараецца ў апакаліптычны хаос. Гожы сьвет распаўзаецца, плавіцца, скаланаецца. Сінія лясы па небакраі нібыта ахопленыя ўраганам, дрэвы, нібы паходні, сьціскаюць дамы. Дэманічная сіла прыроды імкнецца ўзарваць законы сьветабудовы. Мастацтвазнаўцы адзначаюць блізкасьць твораў Суціна тых часоў да нямецкага "штурмавага экспрэсіянізму", адносячы яго да мастакоў "чыстага інстынкту", які праз разьвіцьцё імпрэсіяністычных прыёмаў дасягнуў экспрэсіянізму.

Празь дзевяць гадоў пасьля свайго ад'езду зь Беларусі Суцін разьвітаўся і са сваімі фінансавымі праблемамі. Буйны амэрыканскі калекцыянэр Альбэрт Барнэс набыў звыш 50 палотнаў Суціна зараз, і мастак, нарэшце, атрымаў шанец цалкам аддацца мастацтву. З гэтага часу ён заняўся і сваім здароўем і побытам. З чыстым сэрцам ён прападаў гадзінамі ў Луўры. Ягоны ўлюбёны Рэмбрант няўхільна, нібы магнітам, вабіў яго да сябе. Суцін сам казаў шматкроць, што хараство рэмбрантаўскіх палотнаў робіць яго "крыху вар'ятам"... Напэўна, двух мастакоў лучыла нешта большае. У Луўры захоўваецца палатно Рэмбрандта з выявамі разьдзеланых кароўіх тушаў...

Як і раней, юнаком, у Беларусі, Суцін ня мог утаймаваць свае жарсьці да натуралістычнага вывучэньня сьвету. Аднойчы і ён пабачыў тушы на бойні... Суцін пры дапамозе свайго прыяцеля калекцыянэра Збароўскага, прыдбаў на бойні цэлае бычынае цела, і падвесіў яго ў сваёй майстэрні. Ён маляваў цела бясконца, у розных варыяцыях. Тое, што ў Рэмбрандта было спосабам зразумець будову матэрыі, у Хаіма Суціна ператварылася ў шал чырвоных, белых, сініх фарбаў. Вялікае цела мёртвай жывёліны з запеклай крывёю, са сьлядамі ўдараў плыве ў няпэўнасьці блакітнае прасторы...

"Паж" быў напісаны Суціным ў 1925 годзе. У гэты час ён быў ужо прызнаным і вядомым мастаком, зь немалым жыцьцёвым багажам. Менавіта гэтую карціну слоўнік мастацтваў The Hutchinson называе як самую славутую рэч Суціна, дакладней, як самую "тыповую" для ягонае творчасьці. Можа і так, але гэтая праца перадусім стала квінтэсэнцыяй яго мастацкага досьведу.

Няпэўнага ўзросту чалавечая істота ў кармазынавай ліўрэі. Стома пераламанае лялькі, якая толькі што ўвіхалася ў нечых руках. Шалёная чырвань адзеньня, адцененая брунатнымі, зялёнымі і блакітнымі блікамі на адмыслова брудным аморфным тле. Твар, суцэльным месівам кінуты на палатно, пазбаўлены нават мінімальнае эстэтызацыі, але і ў гэтай дысгармоніі ясна чытаецца мэлянхалічны жах П'еро. Жарсьць колераў і апатыя да жыцьця. Мэлянхолія пад Апакаліпсіс.

Знаёмства з мастацтвам нацыянальных рамантыкаў на радзіме не прайшло для яго марна. Гэтая акалічнасьць адбілася ў творах Суціна цікавасьцю да драматургіі твора, якая чытаецца даволі ясна. Варта тут параўнаць ягонага "Пажа" са "Станьчыкам" Матэйкі... Уражвае і падабенства герояў (швайцар і блазан) і кампазыцыя (алюзія на паралельную плынь жыцьця — тускнае сьвятло за плячыма герояў) і нават паставы пэрсанажаў (седзячая фігура, якая яшчэ і "гаворыць" рукамі)... У абудвух мастакоў іх пэрсанажы — адназначна трагічныя героі. Але Станьчык Матэйкі — геніяльны празорца, філёзаф, які з роспаччу ўглядаецца ў лёс сваёй Айчыны, хоць ён па-праўдзе толькі блазан... Для Суціна "Паж" — ахвяра...

... Імітуючы ахвяру, жыды вызваляліся ад яе, вызваляючы яе. Вызваленьне як закланьне і закланьне як вызваленьне — неад'емная частка юдэйскага сьветапогляду. У часы Абрагама жыды сымбалічна грузілі ахвярнага казла сваімі грахамі і ... адпускалі, адпускалі ў пустэльню. Там ён непазьбежна канаў, але канаў свабодным. У нашых мястэчках такой жывёлаю стала кура. Пасьля адпаведнага рытуалу з чытаньнем модлаў, такую куру выганялі са двара, каб атрымаць адпуст і збаўленьне ад граху. Кура, зарэзаная, павешаная, памерлая — таксама тыповы матыў Суціна. Дэпэрсаніфікуючы свае мадэлі, ён дарыў ім свабоду... за якой іх ужо не было як людзей. Ахвяры сваёй ўбогай штодзённасьці, яны станавіліся ахвярамі свабоды, якой ім ніколі не дастаць на зямлі. Можа і праўда, Суцін адпускаў пэрсанажаў сваіх палотнаў з малітваю?..

Слава мастака яшчэ доўга кацілася ўгару. У 1927 годзе прайшла ягоная першая пэрсанальная выстава ў Парыжы. Ягоная першая біяграфія, складзеная Вальдэмарам Георгам, выйшла ў 1928 годзе. Нарэшце, у 1935-м зь вялікім посьпехам прайшла ягоная выстава ў чыкагскім Арт-Клюбе, упершыню ў Амэрыцы...

У 1937 годзе ён пасябраваў з Гердаю Грох, немкаю, якая ўцякла з фашыстоўскае Нямеччыны. Гэты самы значны раман у жыцьці Суціна скончыўся праз тры гады. Герда Грох была закатаваная ў канцлягеры ў Пірэнэях. Сам Хаім Суцін мусіў хавацца ў глухіх кутках правінцыі. Нязбыўны страх і нястача абвастрылі ягоныя застарэлыя хваробы страўніка, якія не адпускалі яго ўжо даўна. У 1943-м ён памёр ад кровазьліцьця праз прыступ язвы страўніка.

Сяргей Харэўскі

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Міколу Б. са Сьветлагорску.** Успаміны людзей пра партызанаў, якія Вы чулі, варта запісваць і дасылаць нам. Наконт падручніка гісторыі — паспрабуйце сфармуляваць, што Вам у ім не падабаецца. Каб гаварыць пра слоўнікі, нам трэба дзеля пачатку трымаць іх у руках.

**Міхаілу Б. зь Ліды.** На жаль, мы атрымалі ад Вас ня першы асобнік артыкула. Хоць сама тэма для "НН" цікавая. Адзінае, што варта было б удакладніць — парадак перайменаваньняў, пра якія Вы пішаце. Каб, напрыклад, зьмены часоў Рэчы Паспалітай згадваліся да перайменаваньняў савецкага часу, а не пасьля іх.

**Ганьне С. з Койданава.** Ліст Л.Сапегі патрабуе разгорнутага камэнтару. Камэнтар А.Міцкевіча перакладзены кепска. "Вандроўка новых ліцьвінаў..." — шматслоўная і таму пуставатая.

**Г.Т. з Горадні.** Верш Ю.Сергіевіча мы надрукуем разам з Вашай прадмовай, але ў арыгінале — г.зн. лацінкай. Ці можаце Вы зрабіць ксэракопію альбо даслаць арыгінал?

**Ананіму з Салігорску.** Ваш ліст атрымалі і рыхтуем да друку.

**Міхасю М. з Баранавічаў.** Аналіз памылкі Шарля Пэро мы перадалі З.К.

**Руслану Р. з Баранавічаў, Сяргею П. зь Берасьця, Сяргею К. з Жодзіна, Аляксандру У. з Гомеля, Юрыю Ч. зь Пінску, Алесю І., Алесю Х. і Генадзю Д. зь Менску, Ліліі С. зь Ліды і іншым**. Празаічныя творы спадзяемся надрукаваць у наступным выпуску "Эпікону".

**Ірыне С. зь Менску.** На жаль, чарговы нумар "НН" спазьніўся і Ваш допіс пра выставу стаў неактуальным.

"Наша Ніва"
незалежная газэта
заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991

НАША НІВА

заснавальнік ........ Павал Жук
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ БГФ "Наша Ніва"
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
вёрстка ........ Іна Жызьнеўская
набор ........ Таццяна Чуйвід
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі ........ Зьміцер Бартосік
(тэл. 56-94-36)

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
E-mail: edit@niva.minsk.by
Падпісны індэкс 63125

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

 Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. Наклад 3560. 8 палос фармат А2 Нумар падпісаны ў друк 19⁵⁵, 29/6/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 3746. Кошт свабодны.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12